Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# Паляўнічы Беларусі

Орган Беларускага прамыслова-коопэра-цыйнага саюзу паляў-нічых





1930
№ 6
Чэрвень
ГОД ВЫДАНЬНЯ IV



№ 6

# ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ

1930 году.

Штомесячная часопісь „БЕЛКОХОТСОЮЗА"

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:

На год . . . . . . 2 р.
„ 6 месяцаў . . . . 1 р. 20 к.
„ 3 месяцы . . . . 70 к.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
Менск, Савецкая, 71, тэлефон 405.



## Пастанова Наркамземляробства ад 4-га мая 1930 году.

Улічваючы распачатак працы па асушцы „Гадылеўскага Балота", Магілеўскай акругі дзеля пабудовы Электрастанцыі зьняць заказ з уроч. „Гадылеўскае Балота", Грудзінаўскай дачы, Дняпроўскага лясьніцтва, Магілеўскай акругі на плошчы 1200 га з 5-га мая г. г.

Наркамземляробства *Рачыцкі.*

Загадчык Ляснога Сэктару *Пятрушын.*

## Пастанова Наркамземляробства ад 12 мая 1930 г.

Арганізаваць тэрмінам на 5 год, пачынаючы з 1 мая 1930 г. па 1 мая 1935 г. наступныя паляўнічыя заказьнікі:

### А. Па Менскай акрузе.

1) Прылепская дача, Менскага л-ва, у кварт. № 1—16 на плошчы 1605 га.

2) Дзьвіноская дача. Плешчаніцкага л-ва—у кварт. № № 1—35 на плошчы 3822 га з забаронай паляваньня за ўрочышчы Яськава балота.

3) Неманіцкая дача, Неманіцкага л-ва—у кв. № № 8, 16, 18, 25, 23, 34, 38, 45, 40, 77—79, 85—106, 107—120, усяго на плошчы 2762 га, з дазволам пасьбы скаціны ў кварталах № № 8, 16, 18, 28, 34, 38, 45, 46, 79, 88—93, 101—102, 110—112, 113, 116, 117—120 і забаронай паляваньня на землях хутара Стайкі і Шыліна к поўдню ад чыгункі.

### Б. Па Аршанскай акрузе.

4) Дрыбінская дача, Дрыбінскага л-ва, у кв. № № 65—67, 78—83, 95—102, 111—123, 128—140, 143—153, 156—164 агульнай плошчай 3600 га з дазволам пасьбы скаціны ў кв. №№ 65—67, 78—83, 95—96, 99—102, 111, 117—123, 128—130, 137—140, 142—143, 150—153, 156—164.

5) Ухвальская дача, Ухвальскага л-ва. у № № 54—55, 64—69, 76—128 агульнай плошчай 6000 га, з дазволам пасьбы скаціны ў кв. №№ 54—55, 64—69, 76—85, 86—88, 93—96, 100—106, 112—115, 121—122, 126, 128 і забаронай паляваньня на землях карыстаньне в. Сомры, што ў межах заказьніка.

6) Рацаўская дача, Коханаўскага л-ва, у кв. №№ 10, 11, 14, 23—131, агульнай плошчай 3541 га, з дазволам пасьбы скаціны ў кварталах №№ 10, 11, 14, 23—94, 98—99, 106—108, 112—116, 120—121, 125—131.

7) Шчэрбінская дача. Шчэрбінскага л-ва. у кв №№ 1—157, агульнай плошчай 11872 га з забаронай пасьбы скаціны ў кв. №№ 24—27, 35—39, 57—60, 77—80, 86—89, 104—107, 140—157.

8) Чарэйская дача, Чарэйскага л-ва, у кв. №№ 1—53, з агульнай плошчай 5000 га, з забаронай пасьбы жывёлы ў кв. №№ 17—19, 20—21, 24—25, 28—29, 32—33, 38—39, 44—46 і паляваньня на землях с. г. карыстаньня к поўдню ад паўночнага берагу возера Квіціна, к захаду ад дарогі Тапорышча-Язвы—14 квартал дачы, к поўначы ад паўднёвых кутоў кв. № № 52 і 53 да возера Сялява і на возеры Сялява ў межах заказьніка.

Зам. Народнага Камісара Земляробства *Масюкоў.*

Сябра Калегіі НКЗБ і
Загадчык Лясным Сэктарам *Пятрушын.*

## Навуковая экспэдыцыя для вывучэньня фауны.

25 мая з Менску выехала навуковая камісія для дасьледваньня Палесься. У склад экспэдыцыі ўвайшлі праф. Бел. Акадэміі навук А. В. Фядзюшын, асьпірант БАН т. Сержанікаў, студэнт БДУ т. Вязовіч, прадстаўнік па паляўнічай гаспадарцы „Белкохотсаюза" т. Сямашка і прэпаратар.

Экспэдыцыя арганізавана Палесмеліаземам. У ёй прыняў актыўны ўдзел „Белкохотсоюз" шляхам асыгнаваньня сродкаў і ўключэньня ў яе склад свайго працаўніка. Арганізацыя экспэдыцыі выклікана праводзімай зараз работай па мэліарацыі Палесься.

Гэта экспэдыцыя будзе працаваць на працягу трох год і мае сваёй задачай дасьледваць Палесьсе ў мэтах такой пляніроўкі мэліарацыйных работ, каб проблема рэарганізацыі сельскае гаспадаркі ў Палесьсі, у тым ліку і паляўнічае, магла разьвязацца найбольш правільна.

У 1930 годзе экспэдыцыя павінна абсьледваць Рэчыцкае Палесьсе—13 лясьніцтваў на левым беразе Дняпра, гэта Рэчыцкі, Лоеўскі, Хойніцкі, Брагінскі і Камарынскі раёны.

Экспэдыцыя дасьць найбольш пасьпяховыя вынікі толькі ў тым выпадку, калі паляўнічыя арганізацыі і паляўнічыя масы прымуць самы актыўны ўдзел у ёй.

Паляўнічыя, якія жывуць у абсьледваемых раёнах, павінны не толькі дапамагаць экспэдыцыі пры звароце апошняй да іх. Паляўнічыя самі павінны даваць зьвесткі экспэдыцыі аб складзе паляўнічай фауны, прыблізнай колькасьці яе асобна па відах, багатых урочышчы дзічай, месцы такавішчаў, нор, сталнак, лазоў і г. д.

Работа экспэдыцыі будзе перыядычна асьвятляцца на старонках нашае часопісі.

# Чарговыя задачы ў падрыхтоўцы да ўборачнай асеньняй пасеўнай кампаніі.

Вясновая пасеўная кампанія бягучага году праходзіла ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы і вялікага пералому ў разьвіцьці сельскае гаспадаркі па сацыялістычнаму шляху. Прыкладам гэтага сьведчыць тое, што да сяўбы на калектыўных пачатках прыступілі да 12 процантаў бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Сяўба на калектыўных пачатках разгорнута на плошчы каля 16 проц. усяе сельскагаспадарчай тэрыторыі БССР, а разам з саўгасамі каля 18—19 проц. У выніку такога тэмпу сацыялістычнага будаўніцтва ў сельскай гаспадарцы, трэба спадзявацца, што саўгасы і калгасы да часу ўборачнай кампаніі перакрыюць з лішкам таварную частку прадукцыі сельскагаспадарчай вытворчасьці, якая раней знаходзілася ў кулацкіх гаспадарках. Такім чынам рабочая кляса ў саюзе з бядняцка-серадняцкім сялянствам, пад кіраўніцтвам партыі, на справе вырашае замены вытворчасьці кулака вытворчасьцю саўгасаў і калгасаў.

Посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва тлумачацца выключна тым, што пад Ленінскім кіраўніцтвам партыі ўсьлед за батрацка-бядняцкімі масамі, зразумеўшы перавагі буйнай аграмаджанай гаспадаркі, пайшлі сераднякі, што цалкам пацьвярджае магчымасьць ва ўмовах пралетарскай дыктатуры аб'ядналіца дзесяткам тысяч бядняцка-серадняцкіх гаспадарак з распыленых, дробных, малатаварных у буйную, сацыялістычную сельскую гаспадарку.

Побач з посьпехамі калгаснага будаўніцтва трэба адзначыць і тое, што сацыялістычны сэктар сельскай гаспадаркі вытварае сяўбу з вялікім пад'ёмам, большай арганізаванасьцю. Прыкладам гэтаму можа служыць тое, што на 20 мая засеяна саўгасамі 66 проц., калгасамі і індывідуальнымі бядняцка-серадняцкімі гаспадаркамі—39 проц., у адносінах да пляну засеву.

Дабіўшыся першых посьпехаў у будаўніцтве калектыўнай сельскай гаспадаркі і правядзеньня бальшавіцкай сяўбы, мы павінны паставіць зараз практычныя задачы да ўборкі вытвараных пасеваў, а таксама і да пасьпяховага правядзеньня асеньняй сяўбы.

Першыя посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва тлумачацца яшчэ і тым, што партыя з усёй сілай дабівалася правядзеньня Ленінскага прынцыпу ў пытаньнях калектывізацыі, вядучы рашучую барацьбу з правым ухілам і левымі загібамі.

Асноўнымі задачамі ў падрыхтоўцы да ўборкі і асеньняй сяўбы трэба паставіць:

а) усямернае арганізацыйна-гаспадарчае замацаваньне існуючых калгасаў, асабліва арганізаваных да веснавой пасеўнай кампаніі і, на гэтай базе, няўхільнае замацаваньне дабрахвотнасьці ўваходу ў калгасы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, узмацніўшы далейшы рух калгаснага будаўніцтва з ахопам да пачатку асеньняй сяўбы арыентыровачна 20 проц. усіх двароў;

б) далейшая арганізацыя прасьцейшых вытворчых каапэрацыйных аб'яднаньняў і каапэраваньня бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, з уцягненьнем у вытворча-каапэрацыйныя аб'яднаньні ня менш 85 проц. усіх сялянскіх двароў, не ўвайшоўшых пакуль-што ў калгасы;

в) пашырэньне пасеўнай плошчы пад азімымі культурамі на 4 проц., альбо 55 тысяч гектараў, прычым пашырэньне засеўнай плошчы павінна праходзіць у асноўным за кошт павялічэньня ўцягненьня ў засеў новых цалінных зямель, раскарчовак 30 тысяч гектараў, аблогу 10 тысяч гект. і мэліараваных балотных зямель 15 тысяч гектараў;

г) сваячасовая арганізацыя да правядзеньня ўборачнай кампаніі набывае ў гэтым годзе асаблівае значэньне пры наяўнасьці ў асобных выпадках недахопу працоўнай сілы ў калгасах і недастатковага забясьпечаньня складанымі машынамі сельскай гаспадаркі;

д) забясьпечаньне падвышэньня ўраджайнасьці ў саўгасах да 45 проц., у калгасах — да 35 проц. і ў індывідуальных гаспадарках да 25 проц. у параўнаньні да ўраджаю выхаднога году пяцігодкі;

е) ажыцьцяўленьне ў масавым маштабе сіласаваньня кармоў, з мэтаю вырашэньня кармовай праблемы, якая зьяўляецца асновай для разьвіцьця ўсіх галін жывёлагадоўлі;

ж) пытаньне жывёлагадоўлі, асабліва малочнай жывёлы і сьвіней павінна быць пастаўлена ў цэнтры ўвагі ўсіх зямельных і каапэрацыйных органаў;

з) нямалае значэньне набывае пытаньне спэцыялізацыі гаспадарак і падрыхтоўкі плошчы для будучай веснавой пасеўкампаніі, як, напрыклад, садоўніцтва, гародніцтва і інш.

Выходзячы з гэтых асноўных задач, трэба сваячасова завесьці ўборачныя сельскагаспадарчыя машыны і прылады да асеньняй пасеўкампаніі, вызначыўшы канчатковы завоз уборачных машын не пазьней 25 чэрвеня.

Для забясьпечаньня конскай цягавай сілай асобных калектыўных гаспадарак, арганізаваных галоўным чынам з батрацкіх і бясконных бядняцкіх гаспадарак, трэба нарыхтаваць ня менш 1500 коняй, якіх перадаць да пачатку ўборачнай і пасеўнай кампаніі калгасам.

Трэба каапэрацыйным сыстэмам, савецкім гаспадаркам і трэстам зьвярнуць максымальную ўвагу на пытаньні правільнай арганізацыі цягавай сілы, найбольш рацыянальнага скарыстаньня коняй, трактароў, а таксама і складаных сельскагаспадарчых машын, бо ад правільнай арганізацыі цягавай сілы і поўнай нагрузкі складаных с.-г. машын, магчыма будзе пасьпяхова справіцца з задачамі ўборкі і пасеву.

Нямалае значэньне пры правядзеньні ўборачнай кампаніі і асеньняй сяўбы мы павінны надаць правільнай арганізацыі працы ў калгасах і саўгасах. Трэба практычна правесьці ў жыцьцё дырэктывы аб пераводзе ўсіх работ на аплату зьдзельна і вытвараць разьлікі па колькасьці і якасьці затрачанага часу.

Усім вядома, што ў вясеньнюю пасеўкампанію мясцовыя арганізацыі ў пагоні за колькасным паказчыкам калектывізацыі не зьвярнулі дастатковай увагі пытаньням агратэхнічных мерапрыемстваў. Трэба гэты прабел ў асеньнюю пасеўкампанію зьнішчыць. Трэба дабіцца засеву па палепшаных папарах ня менш 600 тысяч гектараў, засеву гатунковым насеньнем ня менш 96 тысяч гект., правесьці ачыстку

насеннага матэрыялу па саўгасах і калгасах на 100% і ў індывідуальных гаспадарках на 90 проц., прычым ня менш 50 проц. заданьня прапусьціць праз трыер; правесьці пратручваньне ўсяго насеннага матэрыялу азімай пшаніцы. Выходзячы з наліччаа радавых сеялак, правесьці радавы пасеў на плошчы 100 тысяч гектараў, у тым ліку ў калгасах — 70 тысяч гект., у саўгасах—10 тысяч гект. і кааперацыйных аб'яднаньнях—20 тысяч гект.

Улічваючы вялікае значэньне, якое мае ўборачная і асеньняя пасеўная кампанія, трэба з боку мясцовых партыйных і савецкіх арганізацый прыняць наступныя меры: давесьці плян да саўгасу, калгасу, асобнай вёскі і двара не пазьней 15 чэрвеня г. г., абмеркаваўшы ўсе пытаньні на шырокіх вытворчых нарадах савецкіх і калектыўных гаспадарак, на прэзыдыумах і пленумах сельскіх саветаў і шырокіх сходах бядняцка-серадняцкіх мас. Трэба асеньнюю ўборку і пасеўную кампанію паставіць у ня менш баявы стан, чым веснавая пасеўная кампанія. Трэба максымальная мабілізацыя рабочых калектываў, саўгасаў, калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх гаспадарак з тым, каб уборку і пасеў правесьці пабальшавіцку, памятуючы, што асеньняя кампанія зьяўляецца адначасова і кампаніяй для падрыхтоўкі будучага гаспадарчага году.

**К. Масюкоў.**

# Вынікі пушных загатовак у 1929-30 г.

Беларусь ні ў якім разе нельга лічыць прамысловым пушным раёнам. У нас паляваньне зьяўляецца галоўным чынам дапаможным промыслам для нязначнай колькасьці сялянства і аматарствам для яшчэ меншай (адноснай) колькасьці гарадзкога жыхарства.

Але-ж кожны год з Беларусі экспартуецца значная колькасьць пушніны і экспарт яе ў шэрагу другарадных відаў экспартнай сыравіны займае адно з першых месц. Таму на загатоўку пушніны неабходна зьвярнуць дастатковую ўвагу, чаго мы дагэтуль не рабілі.

Адстрэл пушнога зьвера ў нас на Беларусі вытвараюць выключна члены саюзу паляўнічых, але-ж некаторую колькасьць дабываюць і браканьеры.

Загатаўлялі дабытую пушніну 4 асноўных загатаўцы: Саюз паляўнічых, Белкаапсаюз, Малжывсаюз і Белдзяржгандаль.

Такім чынам, на Саюз паляўнічых ускладзены дзьве задачы дабыць (адстраляць) вызначаную плянам пушніну і некаторую колькасьць гэтай дабытай пушніны загатовіць, г. зн. купіць у паляўнічых.

Як-жа Саюз паляўнічых выконвае свае задачы?

Раней за ўсё трэба адзначыць, што сёлетні паляўнічы сэзон быў вельмі ня спрыяючы для паляваньня (дрэннае надвор'е і інш.). Акрамя таго, нізавыя паляўнічыя арганізацыі, асабліва Мазыр і Гомель, вельмі слаба падрыхтаваліся да паляўнічага сэзону, ды і само Праўленьне „Белкохотсоюза" недастаткова інструктавала ў гэтым напрамку нізавыя зьвеньні, чаму і здарылася, што мы свае пляны выканалі ня зусім добра.

Вось лічбы, якія сьведчаць аб адстрэле пушнога зьвера ў 1929-30 г. (у процантах): барсук — 86, вавёрка — 74,84, воўк—46,5, гарнастай—140,82, заяц—49,58, куніца—33,7, ласка—166,44, ліс —44,83, норка—92,43, рысь—36, тхор—90, крот—141,72.

Гэтыя лічбы яскрава сьцьвярджаюць даную вышэй ацэнку. Тых зьвераў, якія галоўным чынам адстрэльваюцца, як, напрыклад, барсук, вавёрка, заяц, куніца, ліс, норка, рысь адстраляна зусім мала ў параўнаньні з плянам адстрэлу, тады як зьвераў, якія, акрамя адстрэлу паляўнічымі, здабываліся нагул сялянствам, гэта—крот, ласка, гарнастай, тхор здабыта значна больш, чым меркавалася па пляну.

Лічбы адстрэлу воўка ня могуць сьведчыць аб зьнішчэньні яго таму, што тут паказаны лічбы скур воўка, здадзеныя ў экспартную кантору. Тыя-ж ваўкі, якія здабываліся летам і скуры якіх ня маюць ніякай каштоўнасьці, а таксама зьнішчаныя ваўчаняты, тут не паказаны.

Якасьць адстрэленага пушнога зьвера ўяўляе сабой яшчэ горшы малюнак. Ніжэй даём табліцу колькасьці „галовак" кожнага здабытага віда зьвера і якую грашовую страту мы панесьлі ад дрэннай якасьці пушніны.

| Найменьне пушнога зьвера | % галовак з ліку адстрэлянай колькасьці скурак | Якая атрымана страта ад якасьці пушніны |
|---|---|---|
| Барсук . . . . . | 82,3 | 152 |
| Вавёрка . . . . . | 93,4 | 8202 |
| Воўк . . . . . | 49,4 | 2846 |
| Гарнастай . . . . | 83,1 | 3372 |
| Заяц . . . . . | 70,7 | 8147 |
| Куніца . . . . . | 85,1 | 1500 |
| Ласка. . . . . | 83,6 | 272 |
| Ліс . . . . . . | 80 | 12170 |
| Норка . . . . . | 69,3 | 2000 |
| Рысь . . . . . | 66,6 | 173 |
| Тхор . . . . . | 59,4 | 58392 |
| Крот . . . . . | 67,6 | 6310 |

Такім чынам, ад дрэннай якасьці пушніны мы ў гэты сэзон панесьлі страту ў 103.536 руб. па загатавіцельнай цане.

Якасьць пушніны залежыць ад шмат якіх прычын. Галоўныя з іх—дрэнная здымка і сушка скурак і несваячасовы адстрэл. Такім чынам, якасьць пушніны залежыць выключна ад самых паляўнічых.

Удзельная вага Саюзу паляўнічых у загатоўках пушніны ў гэтым годзе значна павялічылася. Гэта відаць з наступнага:

| Загатаўцы | Удзельная вага ў загатоўках па пляну | Удзельная вага ў загатоўках па выкананьню |
|---|---|---|
| Белкахотсаюз. . . . | 30% | 39,2% |
| Белкаапсаюз . . . | 30 | 21,9 |
| Малжывсаюз . . . | 22 | 14,8 |
| Белдзяржгандаль . . | 18 | 24,1 |

Трэба адзначыць, як адну з найважнейшых перашкод у загатоўцы пушніны, што ўсе загатаўцелі, акрамя Саюзу паляўнічых, давалі здатчыкам пушніны дэфіцытныя тавары. Ня гледзячы на гэта, найбольшы процант нявыходнай пушніны папаў гэтым самым іншым загатаўцелям.

Гэта сьведчыць толькі аб тым, што ўсе загатаўцелі, акрамя „Белкохотсоюза“ менш усяго сачылі за якасьцю пушніны, а дамагаліся толькі колькасьці яе.

Акрамя таго, паляўнічыя лепшыя скуркі здавалі ў сваю каапэрацыю, а іншым загатаўцелям аддавалі горшыя, абы толькі атрымаць неабходны дэфіцытны тавар. Гэтыя іншыя загатаўцелі не правяралі, ад каго куплялася такая пушніна і калі яна была здабыта, чым садзейнічалі разьвіцьцю браканьерства.

Зараз трэба спыніцца яшчэ на адным пытаньні, які ўдзел прымалі ў загатоўках пушніны паасобныя таварыствы паляўнічых. Вось лічбы, якія сьведчаць аб выкананьні заданьня таварыствамі (у процантах): Бабруйскае—99,2, Менскае—99,1, Магілеўскае—80, Полацкае—74,8, Віцебскае—65,4, Аршанскае—57,7, Гомельскае—28,6, Мазырскае—20,2.

Ніводнае таварыства ня выканала свайго заданьня на ўсе 100 проц., але-ж між Бабруйскім і Менскім—з аднаго боку і Мазырскім і Гомельскім—з другога боку, розьніца ў выкананьні сваіх плянаў вельмі вялікая. Такое дрэннае выкананьне плянаў з боку Мазырскага і Гомельскага таварыства роўна злачынству. Ды і наогул усім таварыствам трэба пераглядзець свае загатоўчыя адзінкі і зрабіць належныя вынікі. Аднымі спасылкамі на „аб'ектыўныя“ прычыны і „вялікія“ пляны адгаварвацца нельга.

Якія-ж вынікі можна зрабіць з нарыхтовак пушніны ў 1929-30 годзе?

Перш за ўсё да загатовак была непадрыхтавана паляўнічая каапэрацыя, не скарыстан поўнасьцю мэтад сацыялістычнага спаборніцтва, ня ўцягнута ў нарыхтоўку пушніны ўся маса паляўнічых, не даведзены да паляўнічых ячэек і да паляўнічых пляны нарыхтовак свайго раёну і ячэйкі. Па-другое, неабходна пераглядзець тэрміны паляваньня з тым, каб адстрэльваўся зьвер з найбольш цэннай пушнінай. Па-трэцяе—неабходна скараціць колькасьць загатаўцеляў, пакінуўшы на загатоўках адзін толькі „Белкохотсоюз“, а чацьвёртае гэта тое, што паляўнічая каапэрацыя зусім ня цікавілася нарыхтоўкай тхара і асабліва крата. **С.**

---

# Як будуецца паляўнічая гаспадарка ў Азербайджане.

24 красавіка адбыўся 2-гі зьезд упаўнаважаных „Азкохотсоюза“. На павестцы дня стаяла пытаньне аб выкананьні сацспаборніцтва. На гэты зьезд „Белкохотсоюз“ камандыраваў т. Сьмірнова. Па прыезьдзе тав. Сьмірноў падзяліўся з рэдакцыяй сваім уражаньнем ад паездкі ў Азербайджан.

...Зьезд упаўнаважаных паляўнічае каапэрацыі Азербайджана быў прыўрочаны да 10-годзьдзя Савецкага Азербайджану. Пасьля зьезду адбыліся стралковыя спаборніцтвы і выстаўкі сабак. Зьезд праходзіў вельмі працавіта. Таварышы выступалі з працавітай здаровай крытыкай дзейнасьці „Азкохотсоюза“ і адначасна вызначылі далейшыя шляхі яго дзейнасьці. Ня было ніякай дэмагогіі, ніякіх выступленьняў агульнага характару. Каротка і праўдзіва былі ўлічаны ўсе недахопы і працавіта вырашаны самыя складаныя прынцыповыя пытаньні. Апроч справаздачы зьезд таксама заслухаў і вырашыў пытаньні будаўніцтва прамысловае гаспадаркі „Азкохотсоюза“.

Зьездам прынята пастанова, па якой уся паляўнічая каапэрацыя падзяляецца на 4 ступені: 1. Паляўнічыя калгасы (прамысловыя), 2. Сельскагаспадарчыя калгасы з вялікімі паляўнічымі ўгодзьдзямі (паўпрамысловыя). 3. Сельскагаспадарчыя калгасы з пабочным паляўнічым промыслам. 4. Аматарскае паляваньне. Гэтым самым даецца магчымасьць перавесьці паляўнічую гаспадарку на прамысловыя рэйкі. У паляўнічых гаспадарках 1 і 2 катэгорыі ўтвараецца прыпіска ўгодзьдзяў да паляўнічых арганізацый.

Разам з гэтым зьезд разьвязаў пытаньне аб сацыяльным складзе саюзу. Зроблены захады па чыстцы саюзу. Чыстка павінна скончыцца да 1 студзеня 1931 г. Зьвернута ўвага на ўцягненьне беднаты, батрацтва ў саюз, выкарыстаўшы для гэтае мэты фонд каапэраваньня і папоўніўшы яго новымі ўкладамі.

Дыфэрэнцыраваны пай у Азербайджане толькі што ўводзіцца, ўстаноўлены асобна для батракоў і сялян і асобна для рабочых, служачых і саматужнікаў.

Для першай катэгорыі паляўнічых устаноўлена 4 групы: 1 група батракі — пай 10 руб., 2 — беднякі, вызваленыя ад сельскагаспадарчага падатку — пай 12 руб., 3 — серадпякі, якія плацяць сельгаспадатку без надбаўкі — пай 22 руб., 4 — серадпякі, якія плацяць сельгаспадатак з надбаўкай — 40 руб. Члены калгасаў уносяць пай у залежнасьці ад сацыяльнага становішча па сваёй групе са скідкай у 25 проц.

Для другой катэгорыі ўстаноўлена 5 груп: 1 група з заработкам да 75 руб. — пай 15 руб., другая — ад 76 да 125 руб.— 20 руб., 3 — ад 126 да 175 руб.— 30 руб., 4 — ад 176 да 225 руб.—40 руб. і 5 — звыш 225 руб.—пай 50 руб. Усе катэгорыі пайшчыкаў уносяць пай на працягу 5 год, для паляўнічых, якія ўжо ўступілі ў саюз апошні тэрмін узносу пая 1933 год.

Такі вялікі пай дасьць магчымасьць „Азкохотсоюзу“ накапіць свае сродкі і бесьперабойна задавальняць паляўнічых боепрыладамі.

Вельмі цікавым і сваячасовым было пытаньне аб аб'яднаньні ўсіх закаўкаскіх паляўнічых арганізацый у закаўкаскае аб'яднаньне паляўнічае каапэрацыі, куды павінны ўвайсьці саюзы паляўнічых Азербайджану, Грузіі і Арменіі.

Правільнае вядзеньне паляўнічае гаспадаркі ў Азербайджане набывае ня толькі мясцовае значэньне. Азербайджан зьяўляецца месцам зімаваньня шмат нашых птах. Правільна арганізаваная паляўнічая гаспадарка, з вялікай колькасьцю заказьнікаў і запаведнікаў, з дакладнымі правіламі паляваньня будзе рабіць уплыў на жывую фауну ўсяго СССР. У гэтым напрамку Азербайджану павінны дапамагчы паляўнічыя каапэрацыі ўсяго СССР ня толькі маральна, але, галоўным чынам, матэрыяльна.

Агульнае ўражаньне ад зьезду ў мяне атрымалася самае найлепшае.

# За падняцьце ўраджайнасьці паляўнічых угодзьдзяў.

## Наладзіць паляўнічую гаспадарку. Зьнішчыць недахопы ў заказьніках.

Да гэтага часу мы мала думалі аб паляўнічай гаспадарцы. Мы выкарыстоўвалі багацьце прыроды— і выкарыстоўвалі яго даволі драпежніцкім чынам— і толькі. Настала пара, калі трэба ўзяцца за гэтую закінутую працу.

І раней мы ўстанаўлялі заказьнікі, а ці адпавядалі яны свайму прызначэньню? Бязумоўна, не. Мы проста бралі якое-небудзь паляўнічае ўгодзьдзе і самі сабе пісалі на паперцы, што ось тут заказьнік. Праўда, заносілі гэтае месца на карту ці плян і тады тыкалі ў яго пальцам. Так было ва ўсіх акругах і раёнах, амаль што так яно і зараз ёсьць.

Заказьнікі кепска ахоўваюцца і зараз, не гаворачы ўжо аб мінулым. А ахова зьяўляецца галоўнай умовай існаваньня заказьніка не на паперы. А хіба цяжка ажыцьцявіць ахову заказьніка? Нярэдкі выпадкі, калі ў заказьніках паляўнічуюць, нават ведаючы, што тут заказьнік. А хіба ў нас заказьнікі так папулярны, што аб іх кожны ведае? **Трэба правесьці сапраўдную, жыцьцёвую ахову заказьнікаў.**

Далей, нашы заказьнікі зусім нельга назваць заказьнікамі, ня гледзячы на тое, што яны павінны быць размножнікамі дзічы і зьвера. Перш-на-перш у іх не вялося ніякай навукова-дасьледчай работы. Там ня было падліку дзічы, нагляданьня за ёй, адстрэлу драпежнікаў (я маю на ўвазе толькі шкодных драпежнікаў), у большасьці выпадкаў ня было падсеву траў і падкормкі дзічы і зьвера ўзімку. А гэтыя ўмовы хіба не зьяўляюцца неабходнымі для кожнага заказьніка? **Нам неабходна, як мага хутчэй, аздаравіць заказьнікі, наладзіць ахову, падсеў траў і падкормку дзічы і зьвера.**

А хіба пад нашы заказьнікі выбіраліся месцы ідэальна? Часта ўстанаўляліся заказьнікі там, дзе яны зусім ня прыносяць паляўнічай гаспадарцы ніякай карысьці, а месца займаюць. А тады, насельніцтва, якое жыве навокал, паказвае на гэту недарэчнасьць і зьдзіўляецца навошта занялі месца.

Прымаючы пад увагу тое, што згодна пяцігодкі сельскае гаспадаркі ў Беларусі павінна шырока разгарнуцца мэліарацыя, **мы павінны выбіраць пад заказьнікі выключна такія месцы, якія, бязумоў набудуць карысны для паляўнічай гаспадаркі, калі там устанавіць заказьнік.**

Ітак, каб аздаравіць нашу працу па паляўнічай гаспадарцы, мы павінны даць раённым таварыствам сродкі і пачаць працаваць. Але, каб наша праца па паляўнічай гаспадарцы была чоткай, ня блыталася з другой бягучай работай, трэба „Белкохотсаюзу" яе вылучыць, арганізаваць аддзел паляўнічай гаспадаркі, а рэарганізаваным раённым таварыствам даць мажлівасьць працаваць.

Зараз аб прыпісцы. Лепш за ўсё зацікавіць паляўнічыя масы арганізаваць сваю гаспадарку, калі ён будзе ведаць, дзе яму прыдзецца паляўнічаць. А пакуль у нас паляўнічаюць, хто дзе захоча, дык адсюль і мала зацікаўленасьці ў паляўнічага да сваёй гаспадаркі. Кожны паляўнічы пакуль што і думае толькі аб тым, каб хутчэй папасьці на якое-небудзь угодзьдзе, бо, калі ён спазьніцца, дык прыдзе другі і павыб'е, паразгоніць дзічыну, а яму нічога не застанецца. Няма чаго гаварыць аб тым, што такога зьявішча ня можа быць у прыпісных гаспадарках. Бязумоўна, калі ў нас пачнецца прыпіска, будзе зацікаўлена сама маса, каб на тым вучастку, дзе яму прыдзецца паляваць, больш захоўвалася дзічы. Каб прыпіска была дрэнная справа, яе-б не праводзілі на Украіне, у Азербайджане і па ўсяму СССР. **Прыпіску трэба зрушыць з мёртвага месца.**

Зараз павінна адбыцца рэарганізацыя паляўнічай каапэрацыі. Павінны ўзбуйніцца раённыя таварыствы. Цяжар работы акругі перадаецца ў раёны. Вось тут і трэба зрабіць так, каб раённыя таварыствы галоўную сваю ўвагу зьвярнулі на паляўнічую гаспадарку, якая зьяўляецца галоўнай нашай працай. Мы павінны дабівацца лепшага ўраджаю нашых паляўнічых угодзьдзяў, бо іх плошча з кожным годам скарачаецца. Калі мы гэтага на даб'емся, то бязумоўна пачне скарачацца і здабыча пушніны, якая нам так неабходна ў сучасны момант.

**Усе на падняцьце ўраджайнасьці нашых паляўнічых угодзьдзяў. Задача важная і мы павінны яе выканаць. Трэба зьнішчыць традыцыйную думку, что паляваньне—забава. Паляваньне зьяўляецца часткай народнай гаспадаркі.**

**М. Ц.**

**Ад рэдакцыі.** Пытаньне аб прыпісных угодзьдзях зьяўляецца дыскусіонным, таму паляўнічым трэба выказацца па гэтаму пытаньню.

## Абсьледваць і вывучыць заказьнікі і Белдзяржзапаведнік.

Кожны год у БССР адчыняюцца ўсё новыя і новыя заказьнікі. Зараз ва ўсёй Беларусі налічваецца каля 50 заказьнікаў і 1 запаведнік. Але ў гэтых заказьніках няма ніякай работы. Заказьнікі ня вывучаюцца, вучоту зьвяроў і дзічы не праводзіцца. Мы ня ведаем, якая дзіч і зьвер засяляюць нашы заказьнікі. Да гэтага часу зусім ня чуць, каб акруговыя таварыствы ці райбюро пачалі абсьледваць, вывучаць, наладжваць хоць якую працу ў заказьніках.

Між тым летні час вельмі спрыяе для гэтай працы.

Можна падлічыць вывадкі дзічы, гнёзды зьвера, і тых, якія шкодны для паляўнічай, сельскай і лясной гаспадаркі, зьвішчыць (напрыклад, ваўкі, каршуны, куратнік і перапялятнік).

Неабходна самім паляўнічым актыўна дапамагчы сваім праўленьням, каб агульнымі сіламі прывесьці ў належны парадак нашы заказьнікі і запаведнік.

Трэба адзначыць, што гэтым самым хварэе і беларускі запаведнік, які знаходзіцца ў веданьні Наркамзэму. З справы, разгледжанай Менакрсудом 20 мая па абвінавачаньні былога загадчыка запаведнікам Гурына і яго памоцнікаў, відаць, што там ня была пастаўлена на належную вышыню праца, якая павінна была весьціся ў такой дасьледчай установе, як запаведнік, што і прывяло адміністрацыю на лаву падсудных. Запаведнік, як навукова-дасьледчая ўстанова Ўсесаюзнага маштабу, дыскрэдытаваны ў вачох вакольнага працоўнага насельніцтва.

Трэба спадзявацца, што з зьменай кіраўніцтва запаведніка справа палепшыцца, але пакуль мы нічога ня ведаем, што там зроблена і робіцца.

Працаўнікам запаведніка неабходна падзяліцца вопытамі працы з паляўнічымі масамі на старонках „Паляўнічы Беларусі“, каб гэты вопыт мы маглі выкарыстаць і дапасаваць у сваіх паляўнічых заказьніках.

Адным з галоўнейшых і новых пытаньняў у працы запаведніка і заказьнікаў, мне здаецца, павінен быць вучот фауны і барацьбы з драпежнікамі — абодвы гэтыя пытаньні зьвязаны між сабою. Без падліку фауны ня выявіш драпежнікаў, а без барацьбы з драпежнікамі ня будзе фауны, якую мы жадаем мець.

Драпежнікі, лепш за іншую жывёлу, дапасоўваюцца да ўмоў прыроды. Яны хутка насяляюць такія месцы, дзе менш парушае пакой жыцьця чалавек, гэта—запаведнікі і заказьнікі. Там яны скапляюцца, спакойна плодзяцца і хутка зьнішчаюць іншую жывёлу, а таксама робяць наскокі і налёты адтуль на іншыя мясьціны, у тым ліку і на свойскую жывёлу. Такім чынам, каштоўныя зьверы і птахі для чалавека, памнажэньня якіх мы жадаем, зьнішчаюцца і паядаюцца драпежнікамі.

Галоўным драпежнікам як для запаведнікаў і заказьнікаў, так і для насельніцтва зьяўляецца воўк.



*Фото Савіча.*

Від Сьвіслачы каля Менску.



*Фото Савіча.*

Пэйзаж каля Менску.

Тут трэба агаварыцца, што воўк, як іншыя драпежнікі для роўнавагі ў прыродзе і для навуковых мэт патрэбны, але ў такой колькасьці, якая не адбівалася-б на нашай гаспадарцы. Калі-б воўк і іншыя драпежнікі падбіралі падлу і хворых зьвяроў і птах, якія ня могуць даць здаровага патомства—тут бяды мала. Вось з гэтае прычыны нам і трэба рэгуляваць прырост драпежнікаў і адстрэльваць іх. А гэтага нельга зрабіць пры сучасных умовах, калі мы нічога ня ведаем аб жыцьці нашых заказьнікаў і запаведніка.

З гэтае прычыны мы павінны сачыць за жыцьцём у заказьніках і запаведніку і захоўваць і падтрымліваць роўнавагу ў прыродзе. Трэба адмовіцца ад думкі, што запаведнік і заказьнік павінны знаходзіцца ў натуральных умовах, без умяшаньня чалавека. **Трэба, каб чалавек разумна, шляхам належных мерапрыемстваў, выпраўляў парушэньні ў прыродзе заказьнікаў і запаведнікаў на сваю карысьць.**

Вось чаму мы павінны ў заказьніках і запаведніку наладзіць працу так, каб дзяржава атрымала як мага больш прыбытку, а гэтага можна дабіцца толькі пры ўмове лепшага вывучэньня прыроды і абслугоўваньня заказьнікаў і запаведніка, дзелячыся вопытам нашай працы і прыцягваючы шырокую грамадзкасьць да яе.

**Сільнікаў.**

## Заказьнікі не ахоўваюцца.

Наша Слуцкае бюро калектыву зусім ня цікавіцца заказьнікамі і наогул працуе дрэнна. Ва ўрочышчы „Гнілая“ адчынены заказьнік. Гэта мерапрыемства прывіталі паляўнічыя і не хадзілі туды паляўнічаць. Але зьявіўся паляўнічы Ласэвіч Аўдакім, з в. Навадворцы, для якога законы ня пісаны і пачаў шкодзіць у заказьніку, разбураючы лісіныя норы і выкапваць лісаў. Наогул, Ласэвіч браканьерствуе. Ён мае білет на сябе, а паляўнічае ўся сям'я. На дзейнасьць паляўнічага Ласэвіча райбюро ніякай увагі не зьвяртае, ня гледзячы на тое, што ня раз паведамлялася аб гэтым у райбюро.

**Група паляўнічых.**

## Што трэба зрабіць у заказьніках.

Паляўнічая гаспадарка зьяўляецца асноўнай галіной работы саюзных арганізацый. Але да апошняга часу „Белкохотсоюзом“ чамусьці зьвярталася мала ўвагі паляўнічай гаспадарцы. Толькі два гады назад былі складзены пляны вядзеньня паляўнічай гаспадаркі, а ў гэтым годзе сталі ажыцьцяўляцца.

Разьвіваць паляўнічую гаспадарку „Белкохотсоюз“ рашыў праз арганізацыю заказьнікаў. Трэба адзначыць, што раней ўгодзьдзі падбіраліся пад заказьнікі часткай паляўнічымі арганізацыямі, а часткай самымі лясьніцтвамі і даволі няўдала. Не рабілася папярэдняга абсьледваньня. Часта пад заказьнікі адводзіліся такія ўгодзьдзі, якія менш за ўсё адпавядалі гэтай мэце, але не сустракалі супярэчаньняў з боку мясцовай ўлады і насельніцтва.

Ня лепш з заказьнікамі і зараз. Работы пакуль што там няма. Праўда, заказьнікі зараз аслуповані, амаль усе ахоўваюцца і ў іх зроблен падсеў траў для падкормкі дзічы і зьвера. Але галоўнага падліку зьвера і птахі ў іх і зараз не праведзена. Летні пэрыяд трэба выкарыстаць для дэталёвага абсьледваньня заказьнікаў.

Зараз аб тым, як мы павінны абсьледваць заказьнікі? Абсьледваньне павінна даць поўны малюнак стану заказьніка як па асобных відах фауны, іх колькасьці і якасьці, так і агульны стан заказьніка з гаспадарчага боку. Неабходна ўлічыць наяўнасьць корму, яго колькасьць і якасьць, шкоднікаў, хворых зьвяроў, якія распаўсюджваюць заразу і інш. Апроч таго, неабходна пры дасьледваньні вывучыць кожны заказьнік ў адносіне магчымасьці акліматызацыі ў ім асабліва каштоўнай, з эканамічнага боку, дзічы. Гэта неабходна для падсадкі ў заказьніках новых зьвяроў і птах і ўтрыманьня іх або ў натуральных умовах—на волі, або штучна гадаваць ў няволі ці паўволі.

Якім-жа чынам учыняць абсьледваньне? Кароткі тэрмін, які можна выкарыстоўваць для гэтай мэты (чэрвень—верасень) дазваляе ўчыніць дасьледваньне заказьнікаў толькі адным спосабам. Абсьледваньне павінна ўтварацца кваліфікаванымі паляўнічымі лепш за ўсё групамі паляўнічых. Абсьледвацелям трэба даць дакладныя паказаньні, што трэба абсьледваць, мэту абсьледваньня і межы вучастку—заказьніка.

Абсьледваньне можна ўтвараць і шляхам допыту мясцовых паляўнічых, лясной варты і насельніцтва навакол вучастку. Такім парадкам можна сабраць зьвесткі аб стане паляўніцтва, паляўнічае фауны, лік кожнага зьвера ці птушкі, мясцоў асабліва багатых дзічай і зьверам, таковішч, запасы корму і г. д.

Усе здабытыя такім чынам зьвесткі пасьля, па магчымасьці, правяраюцца на месцы шляхам абходу вучастка. Пры абходзе карысна мець добрага сабаку. Правераныя зьвесткі шляхам абходу заносяцца на карту, выданую праўленьнем. Карты гэтыя схэматычныя, а потым ужо, па сканчэньні абсьледваньня, правяраюцца і папраўляюцца ў праўленьнях. Зьвесткі заносяцца на карту ўмоўнымі знакамі, пажадана аднаго ўзору па ўсей Беларусі, але гэта не абавязкова. Летнія абсьледваньні не дадуць поўнага малюнку стану заказьніка, з гэтае прычыны неабходна паўтарыць гэтыя абсьледваньні па парошы і вясной. У выніку мы будзем мець: карту паляўнічае фауны, карту таковішчаў, нор, стаянак, логаваў і інш. стан флёры, якасьць і колькасьць паляўнічае фауны.

Але на ўтварэньне гэтых абсьледваньняў патрабуюцца грошы. Гэтыя сродкі, праўда, у невялікай колькасьці, „Белкохотсоюзом“ адпускаюцца. Тут трэба дапамога і мясцовых паляўнічых арганізацый шляхам асыгнаваньня сродкаў і мабілізацыі паляўнічае грамадзкасьці. Трэба памятаць, што толькі пры ўдзеле шырокіх мас магчыма будзе мець станоўчыя вынікі.

Атрымаўшы гэтыя зьвесткі мы будзем мець магчымасьць правільна будаваць сваю гаспадарку.

**Сьмірноў.**

## Больш увагі працы сельячэек.

Яшчэ ў 1929 годзе (чэрвень месяц) у Горацкім раёне, Аршанскай акрузе, было організавана пры сельсаветах (дзе меўся кворум) 5 сельячэек паляўнічых. Выбраны былі бюро ў кожнай і даны палажэньні аб іх правох і абавязках. Але, ня гледзячы на тое, што на акруговым зьезьдзе ў Воршы ў 1929 г. аб іх працы казалася шмат і вынесена была адпаведная пастанова, увагі райбюро калектыву па іх працы было адведзена недастаткова, а падпажаць было некаму, бо акруговае праўленьне пасьля зьезду зусім замерла і аб сельячэйках забылася.



Ці ёсьць карысьць ад сельячэек? Бязумоўна ёсьць і значная. Але трэба сельячэйкам дапамагчы. Мы ўжо мелі невялікі вопыт з тых ячэек, якія ў нас былі ў 1929 годзе. У сэзон, калі загатаўлялася пушніна, ячэйкі ігралі рашучую ролю і амаль што ўся пушніна папала ў наш саюз, бо самі сельячэйкі на мясцох сачылі за сабой, не дапушчаючы ні ў якім разе, каб пушніна пайшла да прыватніка.

Па пастанове бюро калектыву Горацкага р. ў канцы красавіка—мая месяца г.г. пачалося ажыцьцяўленьне раней організаваных ячэек і ўтварэньне новых (там, дзе ёсьць кворум). Было арганізавана 4, зараз намечана арганізаваць 5, такім чынам у раёне застаюцца

4 сельсаветы без ячэек. Для правядзеньня агульных сходаў сельячэек вызначаны прадстаўнікі ад райбюро. У 4-х сельсаветах сходы ўжо праведзены. На сходах ставіліся пытаньні: першае—аб задачах і рабоце сельячэек (сюды ўваходзіла праца ячэек у цэлым: ахова паляўнічай гаспадаркі, калгаснай маемасьці, ачышчэньне саюзу ад чужых і варожых элемэнтаў, аб соцыялістычным спаборніцтве і г. д.). Другім пытаньнем было аб барацьбе з браканьерствам і драпежнікамі і аб складаньні брыгад па барацьбе з апошнімі.

На сходах прысутнічала значная большасьць сяброў ячэек, ня прысутнічалі тыя, якія мелі ўважлівыя прычыны. Значная частка выступала ў спрэчках. Выступленьні насілі працавіты характар. Было адзначана шмат хваравітых бакоў у працы нашага саюзу. На сходах можна было заўважыць, што сябры саюзу працай цікавяцца і жадаюць працаваць. Пры кожнай сельячэйцы ўжо складзены брыгады па 4 5 асоб. Вынікі працы брыгад ужо маюцца. Брыгады з 25—30 дзён зрабілі да 17 выхадаў у лясы і паля, забіта 17 бадзячых сабак, злоўлена 3 браконьеры, адзін з якіх ужо пастановай бюро калектыву перададзены ў суд. Сельячэйкі самі прымаюць новых сябраў саюзу і там-жа на месцы фільтруюць кожнага. Частка ячэек правяла працу па праверцы сваіх сяброў на мясцох сумесна з сельсаветам, партыйнымі і камсамольскімі ячэйкамі. Зараз райбюро паставіла перад сабой задачу дапамагчы сельячэйкам. Пры райбюро складзена культкамісія, якой даручана павесьці культпрацу ў ячэйках, утварыўшы адпаведныя куткі пры калгасах, альбо сельсаветах. На культпрацу з сваіх сродкаў бюро адпусьціла да 100 рублёў грошай.

Лічу, што гэтым пытаньнем трэба будзе падзаняцца, як сьлед, ня толькі райбюро, а і акруговаму і цэнтральнаму праўленьням, бо гэта праца ў шмат мясцох, як відаць пастаўлена дрэнна або зусім адсучнічае, у той час, калі яна мае вялікае значэньне ў сацыялістычным будаўніцтве нашае паляўнічае гаспадаркі.



**І. Пташкоў.**

**Ад рэдакцыі:** Думка, выказаная т. Пташковым у сваім артыкуле, бязумоўна, верная. Праз ячэйкі паляўнічых павінна будавацца паляўнічая гаспадарка і працу іх трэба аздаравіць. Сельячэйкам трэба дапамагчы.

## Заказьнікі кепска выкарыстоўваюцца.

Ва ўсіх акругах БССР існуюць заказьнікі. Некаторыя з іх павінны будуць быць заняты (адчынены для паляваньня) у гэтым годзе па розных прычынах. Тады ў гэтыя былыя заказьнікі пасыпяць паляўнічыя, будуць „спаборнічаць“, хто больш выб'е дзічы і, урэшце, усё тое, што нагадавалася за гады заказьніка будзе зьнішчана. А ёсьць шмат выхадаў з гэтага становішча. Мая думка такая.

Перш за ўсё трэба заказьнікі адчыняць для паляваньня ня першага жніўня, да моманту паляваньня, а пазьней на 2 тыдні. Гэтым будзе дасягнута тое, што дзічына будзе даволі вырасшай. Апроч таго, трэба забараніць забіваць у заказьніку больш 5 птах і не страляць старак.

Для лепшага выкананьня гэтага трэба ўвесьці правілы, каб паляўнічы пасьля паляваньня ў заказьніку, абавязкова рэгістраваўся ў вартаўніка заказьніка. Апроч таго, такім чынам мы зможам весьці падлік дзічы, якая напладзілася ў заказьніку і наколькі заказьнікі мэтазгодна адчыняць. Тут гаворыцца аб заказьніках на дзіч, але-ж трэба тое-ж самае зрабіць і ў адносіне заказьнікаў на зьвера.

Адносна абмежаваньня адстрэлу, так ці інакш гэткае абмежаваньне не сягоньня, дык заўтра ўводзіць прыдзецца, і калі гэтыя мерапрыемствы не ўвядзем у заказьніках, то цяжка сказаць, наколькі заказьнікі мэтазгодны, бо ўсё роўна дзіч пасьля выбіваецца цалкам.

**Б. С.**

## За падсеўку падкормачных траў.

Па ўсіх акругах існуюць заказьнікі і лік іх з кожным днём павялічваецца. Але-ж гэтага мала—часта здараецца, што паляваньне ў їм забаронена і ўсё тут. Трэба ў гэтых заказьніках весьці культурную работу: сеяць падкормачныя травы, весьці падлік зьвера і птахі, адстрэльваць драпежнікаў і шмат чаго іншага. Трэба, каб зьверу і птахам было чым карміцца круглы год. Тады ў заказьнік пачнуць зьбягацца зьверы і зьлятацца птахі з суседзкіх угодзьдзяў.

Наша паляўнічая літаратура багата паказаньнямі, як і што лепш сеяць. Вельмі добра для зайцаў, напрыклад, засеяныя палі вікай з аўсом; лубінам з эспарцэтам, канюшынай з аўсом, аўсом з сэрадэлай і г. д.

Гэтыя расьліны добра пакідаць на зіму на карню, ці зьбіраць увосень і скарыстоўваць узімку, як корм. Засеў гэтымі расьлінамі будзе каштаваць ня дорага, а карысьці шмат.

Трэба, урэшце, узяцца за пабудову заказьнікаў культурных, а ня то што, абы з рук.

**Б. С.**

# Як гадаваць трусоў*).

*(Канец)*

Самка бывае котнай 28—32 дні. Каб ведаць, калі самка павінна акаціцца трэба запісваць усе зьвесткі на асобны ярлычок, які вешаюць на клетку. За 5-6 дзён да акоту трэба дакладна ачысьціць клетку, пакласьці сухую падсьцілку з мяккай саломы ці сена і паставіць у клетку гняздо з фанеры, з дзьверкамі да задняга боку клеткі.

За 1—3 дні да родаў, а то часта перад родамі самка часта робіць гняздо і высьцілае яго сваім пухам, які выдзірае зубамі з грудзей, жывата і бакоў.

Маладыя самкі не заўсёды робяць добрыя гнёзды, а бывае, што дзеці родзяцца раней, чым гатова гняздо. Калі своечасова не дапамагчы самцы, дык трусяняты, папаўшы ў студзёнае гняздо, могуць



1-ыя Усебеларускія курсы па гадоўлі трусоў.

усе загінуць. Самка раджае дзяцей блізка каля гнязда, аблізвае, кладзе іх у гняздо, а потым накрывае падсьцілкай. Вельмі часта маладыя, нявопытныя маткі раскідаюць трусянят або ня ўсіх пераносяць у гняздо. У такіх выпадках трэба дапамагчы матцы, сабраць трусянят і пакласьці іх у гняздо.

Зьвяртацца з кожнай самкай трэба ласкава. Здараецца, што самкі коцяцца несваячасова (выкідышы). Гэта бывае ад наступных прычын: 1) Ад перапуду (вялікага стукату, грому, зьяўленьня ў трусятніку сабак і г. д.) 2) Ад кармленьня сапсаванымі прадуктамі і ад раптоўнай перамены корму. 3) Ад розных хвароб у трусоў. 4) Ад спарваньня трусоў аднэй крыві (сваякоў). 5) Ад вельмі раскормленай самкі. 6) Ад ушыбаў. У выпадку выкідыша, самку трэба пускаць у злучку не раней 6-7 дзён.

Трусяняты родзяцца сьляпымі і голымі, але па целу можна ўзнаць, якой афарбоўкі будзе трус: розавае цела паказвае, што трус будзе белым, цёмнае—цёмным.

Трусяняты зьяўляюцца на сьвет заключанымі ў сваю асобную родавую абалонку. Гэту абалонку самка здымае з яго пры дапамозе языка, вылізвае трусёнка, памаленьку пераносіць у гняздо і закрывае яго сваім пухам і падсьцілкай. Здараецца, што самка паядае сваіх трусянят. Гэта часьцей робяць маладыя самкі.

Паяданьне самкай сваіх дзяцей тлумачыцца тым, што самка, зьеўшы абалонку, у якой радзіліся трусяняты, зьядае і трусянят, бо яны маюць зараз-жа пасьля нараджэньня адзіны пах з абалонкай. Апроч таго, гэта здараецца ад недахопу ў карму фасфорна-вапнавай солі і наогул ад ненормальнага кармленьня. Клеткі, у якіх знаходзяцца тыя самкі, якія паядаюць сваіх дзяцей, трэба перад акотам за 2-3 дні штодзённа паліваць 3 проц. расчынам крэаліна і шпігінару.

Самка можа прынесьці ў адзін памет ад 1 да 16 трусянят, але ў шматплодным памёце ня ўсэ бываюць здаровымі і буйнымі. Чым менш трусянят у адным памёце, тым яны буйней, здаравей і лепш разьвіваюцца. Пакідаць трусянят у самкі трэба ня больш 5-6 штук, а то і 4. Калі трусянят родзіцца больш, чым можа выкарміць самка, дык лішнія падкладаюцца да матак, якія маюць менш трусянят. Таму ў племяннай гаспадарцы трэба трымаць простых, беспародных самак. Гэтых самак злучаюць у адзін дзень ці на дзень пазьней племянных самак, каб яны акаціліся разам з племяннымі, бо калі пакласьці трусянят пад карміліцу, якая акацілася за 5-7 дзён раней, то трусяняты будуць дрэнна разьвівацца з тае прычыны, што ў першыя дні жыцьця не атрымаюць малодзіва (малака першага пэрыяду пасьля родаў), якое мае вялікае значэньне для разьвіцьця толькі што народжаных трусянят.

Падкладваць чужых трусянят трэба з вялікай асьцярогай. Калі самка пачуе пах чужых трусянят, яна можа зьнішчыць ня толькі падкладных, а і ўласных. Уперад, чым класьці трусянят пад чужую матку, неабходна ачысьціць іх ад пуху таго гнязда, з якога яны ўзяты, абцерці і абкласьці пухам таго гнязда, у якое трусяняты кладуцца. Апроч таго, трусянят трэба падкладваць у перамежку з тымі, якія ў гняздзе ўжо ёсьць. Падкладваньне трусянят пад карміліц павінна ўчыняцца раніцой, перад кармленьнем карміліцы, пры чым карміліцу абавязкова трэба ўзяць на гэты час з клеткі. Хвілін праз 30 трусяняты прымуць пах гэтага гнязда і самку можна пусьціць у клетку. Пры падкладваньні трусянят ва ўзросьце ад 2-3 тыдняў пад чужую матку трэба абмазваць трусянят мачой прыёмнай маткі і, апроч таго, уліць у храпу прыёмнай маткі 4-6 капель камфорнага масла або эфіра-валяр'янавых капель. Гэта прытупіць нюх і самка не пазнае чужых трусянят па паху.

Ні ў якім разе нельга злучаць самку ў той час, калі яна корміць трусянят. У гэты час матка не падпускае самца, а калі падпусьце і будзе заплоднена дык вельмі схудзее.

Матка корміць трусянят большай часткай уначы, а днём толькі тады, калі ёй ніхто не перашкаджае. Тады яна становіцца над гняздом, раскапвае яго і трусяняты ссуць яе, лежачы дагары і ўпёршыся пярэднімі лапкамі ў грудзі маткі. Калі ёй хто-небудзь пабунтуе ў гэты час, яна хутка пакідае гняздо, пры чым трусяняты, якія моцна прысасаліся да яе, могуць быць выкінуты з гнязда і задаўлены. На другі дзень пасьля акоту аглядаюць гняздо і калі ў памеце будуць знойдзены ня жывыя трусяняты, трэба іх зараз-жа выкінуць, бо яны могуць загніцца і заразіць іншых. На сёмы-восьмы дзень трэба агледзіць усе гнёзды тых самак, якія акаціліся і злучыць іх зноў. Калі пры аглядзе ў трусянят будуць ятрыстыя вочы, з нагнаеньнем, то пры такіх выпадках іх (вочы) трэба прамыць борнай

*) Гл. № 5 „Паляўнічы Беларусі".

кіслатой (1/2 лыжкі для гарбаты, на шклянку цёплай вады) і ачысьціць ад гною. Калі ў гнязьдзе будуць выродлівыя трусяняты, яны павінны карміцца малаком маткі ня менш за 6 тыдняў. Пры адыманьні трусянят раней, чым належыць, яны дрэнна разьвіваюцца і лягчэй паддаюцца розным хваробам. Апроч таго, на іх робіць кепскі ўплыў першая лінька. Пры нараджэньні падзяленьне трусянят па полу бывае: на 100 самак родзіцца амаль 100 самцоў.

Пры адыманьні маладняка ад маткі, у мэтах ухіленьня ад несваячасовага ўзбуджэньня ў трусянят, якое шкодзіць правільнаму разьвіцьцю маладняка, адбіраюць больш дарослых, здаровых і моцных і садзяць іх у загон.

Пры перапісцы і выйманьні трусоў з клетак ня трэба браць за вушы. Гэта для іх вельмі балюча. Лепш браць за скуру на загрыўку ці сьпіне. Пераносіць трэба ў скрынках. Ацэнка маладняка ўтвараецца пасьля першай лінькі, г. зн. ва ўзросьце каля трох месяцаў.

Усіх трусянят, якія пакідаюцца на племя, трэба пераклайміць. Гэта робіцца для таго, каб ведаць, які трус калі нарадзіўся, якой ён пароды і ў якой гаспадарцы ён вырашчаны. Кляйменьне ўчыняецца ва ўзросьце ад 2 да 4 месяцаў. Кляйміць трэба двум асобам і вельмі асьцярожна, захоўваючы ў поўнай чыстаце ўсе тыя прадметы, якія ўжываюцца пры гэтай апэрацыі.

Узрост труса пры вялікім вопыце можна пазнаць і па яго знадворнаму выгляду. У старых трусоў ускудлачаная шэрсьць, ня блішчыць, рэдкая, зубы чорныя. У выніку іх псаваньня, трусы памалу жуюць корм, а цьвёрдага зусім ня хочуць жаваць. Вочы цьмяныя, цякуць сьлёзы і вокал іх на веках утвараюцца маршчыны, шматлікасьць якіх паказвае на вялікую старасьць. Бакі ў старых трусоў упалыя. Кіпцюры доўгія, тоўстыя і закругленыя. Старыя трусы мала рухомы.

**Галубчык.**

## Непарадкі ў Бешанковіцкім трусятніку.

У Бешанковічах 11 трусоў было злучана 6 сакавіка. 8 самак акацілася, але няўдала. Адны сваіх трусянят паелі, другія параскідалі, 2 маладняка здохлі.

З усіх абгледжаных трусоў 90 проц. хворых рэнітам і скрытнымі сухотамі. Самка стала есьці сваіх трусянят, мусіць, ад недастачы вапны ў харчох, якімі кормяць трусоў. Раскіданьне дзяцей тлумачыцца тым, што перад родамі турбавалі самку.

Хваробы—рэніт, скрытныя сухоты, гнойны пляўрыт—разьвіліся з прычыны сырасьці ў памяшканьні. Аб гэтым ня раз пісалася акруговаму таварыству, але апошняе ўвагі не зьвяртала. Зараз адзін выхад з становішча—гэта трымаць трусоў на двары паднавесам, але мала надзеі, каб усе яны выжылі. Ці здаровымі куплены трусы—аб гэтым пасьведчаньня ад урача няма.

Больш месяца таму назад прывезена самка ад нейкага Гаралевіча. Акруговае таварыства пераслала яе ў Бешанковічы, а радаслоўнай ня дала. Калі радзілася і якой пароды, аб гэтым нічога невядома. Ёсьць загадчык трусятніка, а акруговае таварыства робіць, што само хоча. З Віцебску прывезьлі трусоў, а ў якім стане іх здароўе, аб гэтым ніякіх даведак няма. Злучка трусоў не рэгіструецца.

8 мая прывезена яшчэ 5 трусоў ва ўзросьце ад 3-4 месяцаў і таксама бяз усякіх дакумэнтаў. У гадавальніку разам з трусамі знаходзіцца 8 сабак; каніна паразьвешана па ўсіх кутках для сушкі. Такое зьявішча недапушчальна ў трусятніку. Ад сабак мы пакуль карысьці ня маем, а выдаткаў ёсьць шмат. Так працаваць надалей нельга.

**Зарын,**

**Лясныя пажары зьнішчаюць лес, а разам з ім птаху і зьвера. Кожны паляўнічы, кожны сьвядомы грамадзянін павінен весьці барацьбу з ляснымі пажарамі і сам асьцярожна зьвяртацца з агнём**

# Якая паляўнічаму

## Магазынка простая і саманабойная.

**(Па поваду арт. „Аўтамат ці простая магазынка“, „П. Б.“ № 11-12, 1929 г.).**

У паказаным артыкуле няверна асьвятляецца погляд на якасьць магазынак аўтаматычных і неаўтаматычных.

Магазынныя шротавыя стрэльбы на 5-6 патронаў, якія набіваюцца патронамі пасьля кожнага стрэлу перасоўваньнем рукой клямкі рычага ці цаўя — коўзаецца ўзад і ўперад, — вядомы даўно. Вядома таксама і тое, што гэтыя стрэльбы няручныя: пасьля першага стрэлу няма напагатове другога стрэлу, як, напрыклад, у двухрульнай. Страляць дубальтам з такіх магазынак цяжка. Пакуль перасунеш цаўе ўперад, дык прапусьціш самы падыходзячы для стрэлу момант. Такая малая хуткастрэльнасьць падобных магазынак, з паляўнічага пункту погляду, ёсьць іх галоўны недахоп.

Магазынкі саманабойныя набіваюцца патронамі пасьля стрэлу аўтаматычна (таму іх назвалі аўтаматычнымі ці аўтаматамі). Яны гатовы да наступнага стрэлу зараз-жа пасьля першага стрэлу, неабходна толькі зноў націснуць на спускавы кручок. Так што з саманабойнай магазынкі можна рабіць дубальты, як і з двухрульнай ламанкі, стрэл за стрэлам, з той яшчэ перавагай, што з саманабойнай магазынкі можна зрабіць і два дубальты, калі гэта патрабуецца, а з двухрульнай ламанкі гэтага зрабіць нельга.

Пры такой вялікай розьніцы ў хуткастрэльнасьці і зручнасьці страляньня—цяжка параўнаць несаманабойны вінчэстар з саманабойным браўнінгам.

Але на дзіва аўтару памянёнага артыкулу здаецца, што саманабойныя магазынкі нібы толькі тэарэтычна засталіся пераможцамі над магазынкамі, якія набіваюцца не аўтаматычна. Вядома, гэта ня верна. Саманабойная стрэльба ёсьць вялікі крок наперад у галіне магазынных стрэльбаў. Памылковае меркаваньне аўтара, што калі ў Амэрыцы вырабляюцца несаманабойныя магазынкі, дык, менавіта, таму, што яны больш удасканаленыя, чым саманабойныя.

Зьвярну ўвагу чытачоў на той факт, што ў Амэрыцы вырабляюцца і аднанабойныя стрэльбы шратавікі, прадаюцца і старасьвецкія шомпальныя аднарулёўкі „Спрынгфільд“; аднак, з гэтага нельга заключыць, што аднарульныя стрэльбы больш удасканалены, чым двухрульныя, а шомпалка „Спрынгфільд“ лепш магазынкі „Спрынгфільд“, Вінчэстр ці Саведж.

Калі ў СССР вырабляюцца шомпальныя стрэльбы, гэта ня значыць, што мы лічым іх больш удасканаленымі, чым ламанкі.

Амэрыка вялікая. Вырабляюцца там стрэльбы як для сваіх паляўнічых нетраў, так і на вываз.

Аўтар раўняе саманабойны браўнінг да простай магазынкі Вінчэстара. Такое параўнаньне ня вернае. Сьледавала-б параўнаць, уперад за ўсё, хуткастрэльнасьць: тут браўнінг лепш за двухрульную ламанку, а вінчэстар па першых двух стрэлах уступае ёй; а на далейшых стрэлах далёка адстае ад браўнінга.

Падругое, бой стрэльбаў. У гэтай адносіне браўнінг займае першае месца. Вінчэстар узору 1912 г., які мае рулю лёгкага тыпу, ня можа даць такога вострага боя, як больш масыўная руля браўнінга. Калі жадаем атрымаць бой, падобны браўнінгу, прыдзецца ўзяць магазынку Вінчэстара ўзору 1897 г., вагаю 3375 гр. для 16 калібра. Яна на 75 гр. цяжэй браўнінга 16 калібра. Так што, апроч калібра, трэба было параўнаць канструкцыю рулі.

Гаворачы аб вазе, аўтар няверна паказаў вагу магазынкі Вінчэстара 16 калібра, узору 1912 г. Яна важыць ня 2800, а 2900 грам. Розьніца на 100 грам. Калі браўнінг 16 калібра важыць на 400 гр. больш, затое мае баявыя і службовыя перавагі перад Вінчэстарам: руля браўнінга, апроч лепшага бою, ня так лёгка будзе пагнута, раздута і г. д. Урэшце, браўнінг—сыстэма саманабойная.

У лік першых якасьцяй трэба ставіць ня „прыемны выгляд“, як гэта робіць аўтар, а бой, аддачу, агульную вагу і зручнасьць карыстаньня стрэльбай. Аддача вінчэстара пры аднолькавых набоях куды мацней; у браўнінга яна значна выкарыстоўваецца і паслабляецца мэханізмам пры аўтаматычным набіваньні стрэльбы патронамі.

Роўнавага браўнінга здавальняючая. На стэндох і на ўсякіх паляваньнях браўнінгі паказалі сябе, як стрэльбы, годныя для хуткага і трапнага страляньня.

Ці зручны гэтыя стрэльбы на паляваньнях? Аб менш зручным і вельмі марудным набіваньні стрэльбы пры страляньні—я ўжо казаў: у гэтай адносіне вінчэстару не магчыма раўняцца з аўтаматычнай магазынкай. Пры страляньні з вінчэстара перад кожным стрэлам неабходна два разы перасунуць цаўё, ад чаго стрэльба выводзіцца з лініі прыцэльваньня. Апроч таго, з такога напрамку выводзіцца стрэльба і аддачай. Калі гільза ўваходзіць у патроньнік чаму небудзь туга, затвор браўнінга заганяе яе на месца; у вінчэстара такія патроны цаўём не загоніш, ад гэтага бывае затрымка пры страляніны.

Адносна згубы гільз—якія асобныя перавагі могуць быць у вінчэстара? Што гільзы ў вінчэстара падаюць уніз, а з браўнінга—у бок і ўніз, у гэтым уся розьніца. Калі з вінчэстара гільзы паляцаць у ваду, сьнег, балота ці густую траву, яны аднолькава трацяцца ці псуюцца, як і гільзы з браўнінга. Наогул тым, хто страляе з магазынак, асабліва клапаціцца аб зьберажэньні гільз ня прыходзіцца.

Аб складанасьці той ці іншай сыстэмы можна сказаць наогул, што сыстэма браўнінга, як аўтаматычная, вядома, складаней неаўтаматычнай сыстэмы Вінчэстара. Шомпалка мае менш часьцей і радзей псуецца, чым ламанка, але апошнія перавагі ламанкі так вялікі, што ўсякі паляўнічы, які мае магчымасьць набыць ламанку, адмаўляецца ад шомпалкі.

Адносна моцнасьці браўнінгаў мы ведаем, што мэханізм іх, пры належным даглядзе, работае дзесяткі год, вытрымлівае шмат тысяч стрэлаў. Калі казаць аб спраўнасьці, дык экстрактар і для браўнінга можа зрабіць усякі сьлесар, але ў браўнінгу гэта частка мэханізма вельмі рэдка псуецца.

патрэбна стрэльба.

Адыманьне рулі для чысткі ў браўнінга ўтвараецца даволі проста, бяз усякай „каніцелі“, якая існуе хіба ва ўяўленьні аўтара. Пры аднятай рулі ў браўнінга атрымліваюцца наступныя часткі: ложа з каробкай, рамнём і гайкай — адна частка, цаўё — другая і руля—трэцяя. Аўтар налічыў пяць частак.

Няверна, што звычайнаму паляўнічаму нібы не пад сілу поўная разборка браўнінга. Гэта было вельмі даўно. За часы сусьветнай і грамадзянскай вайны стральцы пазнаёміліся з рознымі сыстэмамі аўтаматычнага аружжа. Зараз кожны наш чырвонаармеец—не ранейшы маларазьвіты „ванька“ — ён умела і талкова спраўляецца з стрэльбамі-кулямётамі, станковымі кулямётамі і іншымі аўтаматамі з куды больш складанымі мэханізмамі, чым паляўнічы шратавік браўнінга, разборка і зборка якога ніякіх цяжкасьцяй не ўяўляе.

Аб прыгожасьці лепш не гаварыць. Усе шротавыя магазынкі наогул менш прыгожы, чым, напрыклад, двухрульныя ламанкі, але ня ўсе паляўнічыя зьвяртаюць на гэта ўвагу.

А наогул неаўтаматычныя магазынкі Вінчэстара ня маюць вялікага інтарэсу для нашага паляўнічага з тае прычыны, што, па-першае, стрэльбаў гэтых няма і наўрад ці будуць яны ўвозіцца з Амэрыкі. Па-другое, магазынка стрэльба аматарская, дарагая і страляньне з яе абыходзіцца куды даражэй, чым з ламанкі, бо страляць трэба гільзамі з паперы. А, па-трэцяе, гэта тое, што, калі ўжо купляць магазынку, дык лепш аўтаматычную, саманабойную, што большасьць аматараў і робіць.

**В. Е.**

## Магазынныя шратавікі Арысака.

Зьявіліся ў продажы двухнабойныя аднарульныя стрэльбы японскай сыстэмы Арысака. Стрэльбы гэтыя пераробленыя з японскіх вайсковых вінтовак Арысака і зьяўляюцца цікавымі шротавымі стрэльбамі больш 20 калібру, чым 16 пад гільзу даўжынёй у 70 *мм.*

Калі параўнаць іх з вядомымі шротавымі магазынкам Мосіна-Фралова, якія пераробленыя з расійскіх вайсковых трохлінейных вінтовак, шратавікі Арысака маюць наступныя перавагі: вельмі моцны надзейны затвор, добры выкідацель, зручны забясьпечнік у выглядзе шырокага гузіка з насечкай, якім трэба кіраваць ня пальцам, а проста далоньню; спуск вельмі мяккі з папярэднікам; рульная каробка і затвор зачынены зьверху сталёвай крышкай, якая захоўвае затвор ад забруджаньня і засьмечаньня пылам, сьнегам і г. д. Пры адчыненьні затвора, крышка коўзаецца разам з затворам. Цікава, што баявая спружына знаходзіцца не на ўдарніку, а ва ўдарніку. Таму лепш захавана ад забруджаньня пылам, порахавымі газамі і г. д. Магазынная каробка захавана ў цаўё так, што яе ня відаць знадворку. З гэтай прычынай стрэльба зручней; у магазыне зьмяшчаецца адзін патрон, другі ў рулі.

Руля стрэльбы Арысака ўстаўлена новая з барданоўскіх руляй, сьвідроўка цыліндрам, даўжыня 71 *с-см.* Рульная каробка і мэханізм ранейшыя японскія. Ложа бывае або пераробленая з японскага бука, або новая з нашай бярозы. Стрэльба савецкай работы, здавальняючай апрацоўкі, сталёвыя часткі добра заваронены. Кошт 34—36 руб.

Стрэльбы Арысака па сваёй моцнасьці і надзейнасьці заслугоўваюць увагі; яны прыгодны для мацнейшых набоеў, якія вольна зьмяшчаюцца ў доўгай гільзе.

Апісаная стрэльба Арысака зьяўляецца ўзорам стрэльбы, выпушчанай у 1905 г. У продажы пападаюцца падобныя шратавікі Арысака, але ўзору 1897 г. Апошні розьніцца ад стрэльбаў узору 1905 г. затворам, які мае каля курка забясьпечнік у выглядзе кручка. Крышкі няма, выкідацель слабейшы. Наогул, узор стрэльбы 1897 г. менш ўдасканалены, хоць і лепшы, чым магазынка Мосіна-Фралова. Кошт такі-ж.

**В. Е. Маркевіч.**

## Аднарульныя стрэльбы сыстэмы Гра.

Сярод аднанабойных шратавікоў у Маскве зьявіліся стрэльбы сыстэмы Гра. Яны пераробленыя з французскіх вайсковых вінтовак узору 1871 году, кал. 11 м-м, і зьяўляюцца вельмі моцнымі стрэльбамі.

Руля прасьвідравана пад 28 калібар, патроньнік для гільзы 70 м-м; даўжыня рулі 71 см; сьвідроўка цыліндрам. Затвор амаль такі, як у нашай трохлінейцы, але больш моцны, надзейны выкідацель і добры спускавы мэханізм. Баявая спружына вельмі моцная. Курок узводзіцца паваротам ручкі ўправа; ён мае баявы і забясьпечны ўзвод як у затворы бярданкі, з той толькі розьніцаю, што, калі ў Гра курок на забясьпечным узводзе, яго можна спусьціць, але пістон не разьбіваецца; затвор не запіраецца забясьпечнікам. Рульная каробка масыўная, карацей за бярданачную, запіраньне рулі каля патроньніка вельмі моцнае, мацней затвору бярданкі. Затвор лёгка выймаецца з каробкі рулі. Для гэтага даволі адкруціць шруб, які знаходзіцца ў правым баку ад каробкі рулі. Гэта можна зрабіць адкруткай ці нажом. Вынуўшы затвор, можна чысьціць рулю з любога канца. Ложа бярозавая, антабкі для рамня ранейшыя, вайсковыя, адна пад прыкладам, другая ў плоскага шырокага абручыка, які яднае рулю з цаўём.

Стрэльба лёгкая (2.900 гр.), добра зробленая, моцная. Сталёвыя часткі добра заваронены, затвор пакрыты нікелем. Прадаюцца стрэльбы Гра па 17—18 руб., г. зн. не даражэй звычайных бярданак, хаця куды лепш апошніх.

З боку аматараў аднабойныя стрэльбы Гра дробных калібраў заслугоўваюць увагі моцнасьцю затвора, і добрым выкіданьнем гільзаў.

**В. Е. М.**

# Сабакагадоўля.

## Ацэнка якасьцяй вытворцаў [1].

*(Працяг)*



„Рая“—Чырвона-пегі пойнтэр. *Фото Окунева.*

Мы ўжо паведамлялі таварышам, якія займаюцца гадоўляй сабак, пра тое значэньне, якое маюць знойдзеныя Мэндэлем законы перадачы ў насьледнасьць адзнакаў.

Кожная жывёла мае свае знадворныя адзнакі, па якіх і розьніцца ад іншае жывёлы. Возьмем, напрыклад, сабаку. Ва ўсіх сабак ёсьць вушы, але яны розныя па форме: у лайкі яны стаяць, у сэтэра вісяць складкай, у ганчака таксама вісяць, але клінам. Нават у адной і тэй-жа пароды, напрыклад, у ірляндзкіх сэтэраў, мы бачым вуха, пасаджанае нізка, бліжэй да патыліцы, далей ад патыліцы і г. д.

Таго, хто гадуе сабак, павінны цікавіць пэўныя адзнакі, г. зн. тыя, якія шчыльна адпавядаюць стандарту пароды. Адгэтуль мы павінны зрабіць заключэньне, што стандарт і экстэр'ер [2])—ня тое самае, як гэта думаюць іншыя. Экстэр'ер—гэта наогул знадворны выгляд жывёлы, а стандарт—такі знадворны выгляд, у якім адзнакі падабраны па вядомаму вымаганьню. Гадаваньне сабак пэўнага стандарту і ёсьць галоўная задача ў сабакагадоўлі.

Значыць для таго, каб гадаваць добрых, вядомага стандарту сабак, трэба ведаць гэты стандарт і, апроч таго, тыя законы, якія кіруюць перадачай адзнакаў ад бацькоў да дзяцей.

Адзін з такіх законаў—закон дамінаваньня [3]) адзнак мы ўжо ведаем, застаецца пазнаёміцца падрабязьней з другім асноўным законам, законам расшчапленьня адзнакаў, які заўсёды праяўляецца толькі ў другім пакаленьні (ва ўнукаў) гэтых вытворцаў.

Чытач, мусіць, памятае з ранейшага артыкулу, што дамінуючыя адзнакі аднаго вытворца нібы зачыняюць сабой ад нашага вока рэцэсыўныя адзнакі другога вытворца, але толькі ў першым пакаленьні, г. зн. у дзяцей. Але рэцэсыўныя адзнакі не прападаюць бясьсьледна, а абавязкова праяўляюцца ў другім пакаленьні, ва ўнукаў, г. зн. расшчапляюцца, абасабляюцца. З прычыны гэтага гэта зьявішча і носіць назву закона расшчапленьня адзнакаў.

Возьмем для прыкладу шэрага пса, г. зн. выбярам з масы адзнакаў, складаючых экстэр'ер гэтага пса, толькі адну адзнаку—масьць, і няхай гэта адзнака будзе панаваць (дамінаваць) над усімі іншымі адзнакамі таго-ж паходжаньня, г. зн. масьцямі—чорнымі, белымі, жоўтымі і г. д., якія зьнікаюць перад дамінуючымі і называюцца рэцэсыўнымі. А сучку падбярэм да гэтага шэрага пса чорную, г. зн. якая мае адзнакі рэцэсыўныя. Зараз зададзім сабе пытаньне: якой масьці будуць шчанюкі ад гэтай пары вытворцаў? Вядома, што шэрай, бо вытворца дамінуючы шэры.

Зараз зададзім сабе другое пытаньне: які-ж з нашых вытворцаў лепшы? На гэта пытаньне шмат хто скажа, што вядома пёс, бо ён перадаў сваім дзецям свае адзнакі, а ня сучка.

Але ці правільны будзе такі адказ? Скажам проста: не, няправільны і па наступных прычынах. Папершае, ці ўдала пастаўлена самае пытаньне, калі мы ведаем, што прырода ўтварыла адзнакі шэрай масьці дамінуючымі, а чорнай—рэцэсыўнымі. Вядома, няўдала, бо законы прыроды нязьменны. А падругое, калі-б нам было пажадана атрымаць шчанюкоў чорнай масьці і мы-б павязалі нашу чорную сучку з рыжым псом (рэцэсыўным у адносіне да чорнага), дык мы прызналі-б гэтую сучку лепшым вытворцам. І выходзіць, што ў адным выпадку яна—кепскі вытворца, а ў другім—добры. Ці адпавядае гэта лёгіцы? Вядома, не. І, патрэцяе—можа быць такі выпадак, калі шэры пёс, злучаны з чорнай сучкай, дасьць у прыплодзе палову шэрых і палову чорных шчанюкоў. У гэтым выпадку, які вытворца лепш—сучка ці пёс? Прыдзецца адказаць: абодвы добрыя. І выходзіць, што няма ні добрых,



Нямецкі аўчуган. *Фото Окунева.*

---

[1]) Глядзі „П. Б.“ № 4.
[2]) Знадворны выгляд жывёлы.
[3]) Перадачы

ві дрэнных вытворцаў, а ёсць карысныя, патрэбныя для нас і непатрэбныя. Ну, а тое, што нам патрэбна, карысна, мы павінны вырашыць сваёй галавой і рабіць рукамі. Калі мне патрэбны набой шроту № 4, а я вазьму № 10, дык ня шрот будзе вінаваты, а мая галава і рукі.

Значыць, уся справа ня ў тым, хто добры, а хто дрэнны, а ў тым на якіх адзнаках пабудаваны стандарт гэтай пароды—на дамінуючых ці на рэцэсыўных.

Уявім сабе, што пойнтэр усе свае стандартныя насьледныя адзнакі атрымлівае ад бацькоў, як рэцэсыўныя. І чым стандартней сабака гэтай пароды, тым больш рэцэсыўных адзнакаў у яго экстэр'еры, а пераможца пойнтэр павінен мець амаль увесь экстэр'ер, складзены з рэцэсыўных адзнак.

Зараз возьмем і злучым з ім сучку—пойнтэра без аніякага стандарту, якая мае большасьць адзнак дамінуючых. Шчанюкі атрымаюцца ўсе ў матку, нават могуць быць менш стандартнымі, чым яна, бо сучка з 100 проц. усяе колькасьці адзнакаў мела стандартных, г. зн. рэцэсыўных 25 проц., а кабель пераможца з 100 проц.—меў 15 проц. дамінуючых. Да дзяцей з 100 проц. адзнакаў пяройдзе ад маткі 75 проц. не стандартных ды з 25 проц. стандартных заглушыць бацькаўскія дамінуючыя—15 проц., разам да памёту ўсяго пяройдзе ад маткі 75 проц. не стандартных ды ад бацькі 15 проц. такіх самых, г. зн. усяго 90 проц.

З гэтага відаць, што шчанюкі будуць па стандарту хужэй ня толькі за бацьку, але і за матку. Ці можна пасьля гэтага казаць, што гэты вытворца пераможца кепскі. Ці не правільней будзе лічыць таго, хто займаўся гадоўляй такіх сабак, дрэнным.

Але вернемся да закону расшчапленьня адзнакаў і паглядзім, ці ня можам мы пры яго дапамозе атрымаць якую-небудзь карысьць для сябе нават у толькі што апісаным выпадку злучэньня пераможцы пойнтэра з нестандартнай сучкай.

Раней, калі ня былі вядомы законы насьледнасьці, такі памёт сабак тапілі і больш нічога.

У сучасны момант такія прыёмы ў сабакагадоўлі недапушчальны. Мы наш няўдалы памёт пакінем расьці і пры дапамозе закону рашчапленьня адзнакаў, зможам вывесьці ўрэшце з гэтага памёту пера-



*Фото Окунева.*

„Шрэк"—нямецкі аўчуган. Уласьн. Цыруля.



На рынгу. *Фото Окунева.*

можцаў. Але для таго, каб наша дасягненьне, вырванае з таемнікаў прыроды—закон расшчапленьня адзнакаў—ня быў для нас мёртвым капіталам, няліквідным каштоўнасьцю, трэба ўмець з ім апэрыраваць, вывучаць мэтады яго дапасаваньня.

Для прыкладу возьмем зноў самую нагляднаю адзнаку экстэр'ера—масьць.

У нашым выпадку—злучэньне шэрага пса з чорнай сучкай дала ўсіх шэрых шчанюкоў. Калі мы возьмем пёсіка і сучку з гэтага памёту і, калі прыйдзе час, злучым іх—дык да іх бязумоўна прыкінецца чорная масьць і абавязкова ў такой прапорцыі, што на тры шэрых будзе адзін чорны шчанюк. Праўда, гэта правіла распаўсюджваецца для шматколькасных прыплодаў, а здараецца так, што сучка ўсяго прынесла 3 шчанюкоў, тут чорнага можа і зусім ня быць. Але, калі паўтарыць вязку некалькі разоў, дык з усяе колькасьці шчанюкоў шэрых будзе $^3/_4$, а чорных $^1/_4$.

Вось тут і праяўляецца закон расшчапленьня адзнакаў. У выніку мы маем адзін выпадак, калі ад злучэньня чорнае і шэрай масьці, атрымалася ў патомстве адна шэрая масьць, а другі выпадак, ад двух шэрых зьявіліся і шэрыя і чорныя шчанюкі. Чалавек, ня ведаючы законаў дамінаваньня і расшчапленьня адзнакаў нямінуча стане ў тупік, а той, хто ведае гэтыя два асноўных законы генэтыкі адразу і лёгка ўявіць сутнасьць абодвых тлумачэньняў.

Генэтыка-ж [1]) нас вучыць, што ў палавых клетках кожнага арганізму згрупаваны задаткі ўсіх адзнакаў гэтага арганізму; задаткі гэтыя вучоныя назвалі генамі. Так ёсьць ген масьці, ген росту, ген нюху, здароўя і г. д. Гены гэтыя аднолькава закладзены як у жаночых палавых клетках-яйцаклетках, гэтак і ў мужчынскіх—семянных ніцях.

Пры злучэньні палавыя клеткі і парныя гены, г. зн. ген масьці сучкі і ген масьці пса сустракаюцца адзін з адным і ўтвараюць.

**Ю. Румянцаў.**

*(Працяг будзе)*

1) Генэтыка—навука аб насьледнасьці.

# Выстаўка паляўнічых сабак у Бабруйску.

11 мая адбылася выстаўка паляўнічых сабак у г. Бабруйску. Па колькасьці выстаўленых сабак першае месца занялі ганчакі, ды і па якасьці яны прайшлі першымі. Даволі сказаць, што ганчакоў было выведзена на рынг 60, а лягавых усіх парод 16, г. зн., амаль што ў 4 разы менш.

Як відаць, курс паляўнічымі Бабруйску ўзят на зьвераводга сабаку, што па ўмовах мясцовага паляваньня бадай і правідлова. Якасьць лягавых сабак была вельмі нізкая, а таму аб іх я многа гаварыць ня буду і перайду да сваіх уражаньняў аб ганчаках.

Бясспрэчна, і па колькасьці і па якасьці першае месца на паказанай выстаўцы занялі ангельска-расійскія ганчакі. Даваць статыстычныя зьвесткі ў агульным абглядзе выстаўкі здаецца непатрэбна, а таму ў гэтай агульнай частцы я абмяжуюся толькі апісаньнем ступені кляснасьці гэтых парод.

Аб'яжджаючы шмат раёнаў і судзячы на дзесятках выставак, я з здавальненьнем павінен канстатаваць, што такога кляснага матэрыялу, як на выстаўцы ў Бабруйску 11 мая г. г. я амаль што нідзе не сустракаў. Гэта аднолькава адносіцца і да расійскіх і да ангельска-расійскіх ганчакоў з ухілам, вядома, на карысьць апошніх. Не адзін паляўнічы правінцыі ня трымае сабак толькі для выстаўкі, а таму вельмі прыемна, што ганчатнікі Беларусі спыніліся на ангельска-расійскай пародзе, якая, відаць, іх поўнасьцю задавальняе.

У справаздачы па паасобных экзэмплярах я дам расцэнку кожнаму сабаку, але адносна найлепшых з іх, якія атрымалі на выстаўцы вышэйшыя ўзнагароды, неабходна сказаць асобна.

Пачну з ангельска-расійскіх. Першымі, з залатымі мэдалямі, прайшлі „Задор“, рабы—белыя плямы з чорнымі, А М. Кірэева і „Бушуй“—у вялікім чапраку А. К. Галінг.

Я-б сказаў, што абодвых гэтых псоў трэба было паставіць на першае месца, але з тае прычыны, што з двух роўных трэба усё-ж такі выбраць аднаго, то я і паставіў „Задора“. Зрабіў я гэта па вельмі няважных прычынах: гэта вельмі аднаколерная масьць „Бушуя“ і, падругое, некаторая „брухастасьць“, як гаварылі, ад даваньня яму раніцой вельмі вялікай порцыі корму. Але на выстаўцы нельга лічыцца з чуткамі, а трэба канстатаваць факты. Ад „брухастасьці“ зьявілася „правісласьць“ сьпіны—гэтыя абставіны і прымусілі мяне зьнізіць „Бушуя“ перад „Задорам“. Я высока стаўлю „Бушуя“ па яго моцнасьці, крэпасьці мускулаў і багатырскаму касьцяку, а яшчэ больш па даваемаму ім патомству.

„Задор“ яшчэ не пасьпеў зарэкамэндаваць сябе з гэтага боку, але паколькі ня існуе на выстаўках клясы вытворцаў, прэміруемай асобна, гэта перавага „Бушуя“ пад увагу пры расцэнцы ня была прынята. Але ўсё-ж такі абодвы псы з нязначнымі перавагамі за „Бушуем“.

Далей, на залатую мэдаль прайшла расійская выжлоўка „Втора“ з сэкцыі кроўнае сабакагадоўлі Бабруйскага т-ва паляўнічых. Бясспрэчна, яна высока кляснАя выжлоўка. Ад яе трэба ўзяць як мага больш шчанюкоў, і гэтыя акалічнасьці, відаць, улічаны сэкцыяй кроўнае сабакагадоўлі, бо сучка выстаўлена шчэннай. Пры шчэннасьці наогул ня прыгожы сучкі, але я ня мог ня присудзіць ёй вышэйшай узнагароды, бо пароднасьць і тыпічнасьць гэтай выжлоўкі вымагала гэтага.

Я гаварыў тут аб асабліва выдатных экзэмплярах, але я лічу сваім абавязкам сказаць і наогул аб завадзкім матэрыяле гэтай выстаўкі. Матэрыял вельмі багаты, трэба толькі старацца яго выкарыстаць умела.

Дастаткова сказаць, што з 60 ганчакоў, выведзеных на выстаўку, толькі 3 сабакі засталіся без расцэнкі як беспародныя, ці помесі ўсіх ганчакоў і нягодныя для кроўнае сабакагадоўлі.

Шмат якія паляўнічыя лічаць у сучасны момант узнагароду бронзавай мэдальлю, як беспароднасьць, але гэта ня верна. Часта наяўнасьць недахопаў, ня маючых уплыву на патомства, прымушае судзьдзю выдаваць бронзавую мэдаль, г. зн. ніжэйшую ўзнагароду, і вельмі часта гэтыя сабакі даюць патомства лепшае за сабак з вялікімі ўзнагародамі.

Справа ў тым, што прысуджаючы бронзавую мэдаль, судзьдзя тым самым сьведчыць пароднасьць, інакш ён-бы пакінуў гэтага сабаку без узнагароды, але ён канстатуе яе кепскі экстэр'ер *) ці, лепш сказаць, вялікую колькасьць фізычных недахопаў, якія псуюць яе знадворны выгляд, напрыклад, пярэднія ногі „уразьмеце“, заднія з каровінай—недахопы, якія ўтвараюцца выключна ад таго, што сабака ў шчанячым узросьце ня мела свабоды.

Гэтым я хачу сказаць, што 13 сабак, атрымаўшых бронзавыя мэдалі, можна лічыць годнымі для пароды, але ў крайнім выпадку. Пры багацьці лепшых сабак, вядома, трэба карыстацца імі.

Такім чынам трэба прызнаць, што 44 сабакі можна лічыць упаўне годнымі для сабакагадоўлі матэрыялам, 13—можна выкарыстаць як дасьледчы матэрыял і толькі тры адкінуць як нягодныя.

Наогул мне падабалася бабруйская выстаўка і ў арганізацыйнай адносіне. Тут адчувалася рука практыка-паляўнічага, які бачыў і бываў на выстаўках.

**Н. Чэлішчаў.**



На Сожы.

*) Знадворны выгляд.

# Паляўнічая практыка.

У 1929-30 пушна-загатоўчым сэзоне было нарыхтавана „Белкохотсоюзом“ некалькі белых скурак вавёрак. З іх адна была зусім белая, некаторыя напалову, на чвэртку, а то толькі белы кончык хваста. Таксама быў нарыхтаваны адзін зусім белы тхор.

У навуцы гэта зьявішча называецца альбінізмам (ад лацінскага слова Albis—белы). Альбінізм — адсутнасьць пігментаў *) ў адзеньні жывёлы, якая належыць да тых жывёл, якія ў нармальным стане бываюць пігментаваны (афарбаваны). Альбінізм бывае поўны і частковы. У выпадку поўнага альбінізму пігмент адсутнічае зусім у валасах і скуры, а таксама і ў радужыне сетчаткі, бялковай і яднальнатканіннай абалонках вока; валасы і скура ад гэтага ў альбіносаў выглядаюць белымі, а вочы — чырвонымі. Альбіносы бываюць між трусоў, ваўкоў, лісіц, мышэй, пацукоў, анцілоп і шмат іншай жывёлы.

* * *

Узімку 1929 г. „Белкохотсоюзом“ былі злоўлены дзьве дзікія казы. Козы былі пакінуты для Ўсебеларускай сельска гаспадарчай і прамысловай выстаўкі. Да выстаўкі, за адсутнасьцю іншага памяшканьня, яны трымаліся ў гадавальніку сабак „Белкохотсоюза“. Увесну 1930 г. адна каза захварэла, ня ўзяла есьці і хутка загінула. Пасьля ўскрыцьця яе трупа было ўстаноўлена, што каза загінула ад рабакоў.

Гэта сьведчыць тое, што сабакі зьяўляюцца галоўнымі распаўсюджвацелямі рабакоў і трымаць іншую жывёлу разам з імі трэба вельмі асьцярожна, бо козы былі злоўлены зусім здаровымі ў такім стане заставаліся доўгі час.

*) Афарбовачная матэрыя.

* * *

У маі месяцы г. г. „Белкохотсоюзу“ дастаўлена гняздо ваўчанят з 7 штук. Ваўчаняты былі яшчэ зусім сьляпыя і ня прымалі зусім аніякай ежы. Іх трэба было карміць соскай. Але працаўнікі „Белкохотсоюза“ аббегалі ўвесь горад і соскі нідзе не знайшлі.

Тады працаўнікі „Белкохотсоюза“ рашылі папрабаваць падсадзіць ваўчанят пад сучку. Сучка была знойдзена. Яна толькі што ашчанілася і шчанюкоў патапілі. Ваўчанат падклалі пад сучку нанач. Сучка іх прыняла. І, ня гледзячы на тое, што сучка малога росту, яна старанна карміла 7 ваўчанят. Да гнязда нават не дапускала свайго гаспадара. Ваўчаняты, калі выжывуць, будуць дастаўлены на выстаўку.

* * *

У паляўнічым пададдзеле на Ўсебеларускай выстаўцы, апроч усякіх дыяграм і г. д. будуць пастаўлены экспанаты жывой фауны. Зараз падрыхтаваны наступныя экспанаты: воўк стары і сем маладых, мядзьведзь, дзікая каза, лісіцы, арол-беркут, совы, філін, ястрабы, падорлік, белахвост, казарка, сапсан, чорны бусел, сіп, зайцы, журавель.

**Практык.**

---

## Залёт палярнай гагары ў Бабруйскую акругу.

1-га чэрвеня грамадзянін Бабруйскай акругі, Старобінскага р-ну, в. Шапчычы, Жукавец В. вышаўшы паглядзець пасеяны ячмень, заўважыў у ім нейкую вельмі цікавую птаху. Калі ён стаў падкрадацца да птахі, каб злавіць яе, яна не праявіла асабліва страху і ня ўлятала.

Жукавец злавіў гэту птаху і даставіў у Старобінскае раённае бюро калектыву паляўнічых. Там рашылі птаху накіраваць у Менск „Белкохотсоюзу“ для І Усебеларускай выстаўкі.

Птаха аказалася палярнай гагарай. Гагара зусім здаровая. Ніякіх параненьняў ці іншых адзнакаў хворасьці не заўважана.

Радзімай гагары зьяўляецца поўнач. Як відаць яна пралятала з поўдня на поўнач і ад стомленасьці апусьцілася на сушы. Дзякуючы пабудове свайго цела, гагара ня можа шпарка бегаць, а таксама не магла падняцца на аслабеўшых крылах і была злоўлена Жукаўцом.

Птаха дарослая, колер яе пер'я чорны, з белымі палоскамі па баках верхняй часткі грудзей, і сетчатымі белымі плямамі зьверху крылаў. Пад крыламі колер попельна-белы. Галава шэрая, з зеленаватым адценьнем. Дзюба доўгая, вострая, чорная.

Цікава ведаць, ці часта залятаюць у нашы краі палярныя гагары.

**М. Я. Цэлеш.**

---

## Выпадак зімаваньня зябліка ў БССР (Fringilla coelebs)

(*Саўгас Сёмкава, Заслаўскага раёну, Менскай акругі*).

2 сьнежня 1929 г. у невялікім яловым лесе „Ганута“ я чуў сьпевы зябліка. 7 студзеня 1930 г. бачыў двух самцоў зяблікаў на праталіне крутога схілу мяжы саўгаскага поля. 13 студзеня у тым-жа лесе „Ганута“ я чуў зноў сьпевы зябліка.

Зімуючых у раёне саўгасу зялёнушак (chloris chloris) на працягу 3 год, я бачыў і чуў сьпевы пралятаючых так, як і асобныя экзэмпляры крапіўніка (Froglo dites parvilus). Апошнія ўвесь час лёталі карміцца да рэчкі, якая не замерзала ўзімку ніжэй млыну. Бачыў таксама ўзімку летась адну, а залетась пару канаплянак (Acanthis canvabina L).

Зімуючага-ж зябліка мне давялося бачыць сёлета толькі ў першы раз, таксама як і ўюрка (Fringilla montifringila), заўважнага мною ў стайцы сьнігуроў, якая кармілася пакінутымі на агародзе семянамі сорных расьлін.

**М. Ф. Патцэр.**

# Ударым па галавацяпах, бю
# Выкінем з нашае коопэрацыі лю

## Экспанаты для выстаўкі падрыхтоўваюцца кепска.

Савецкая Беларусь, яе калгасы, саўгасы, прамысловасьць, рабочыя і сяляне зьбіраюцца сьвяткаваць 10-годзьдзе вызваленьня ад белапольскай акупацыі, ад панскага прыгнечаньня і ўціску, зьбіраюцца дэманстраваць свае дасягненьні, дасягненьні вольнай працы і культуры.

У горадзе Менску, на голым Камароўскім полі, як з-пад зямлі вылазяць, як грыбы пасьля дажджу вырастаюць, новыя будынкі, павільёны, узорныя сады, гароды, насаджэньні, а там—на заводах, фабрыках, у калгасах, саўгасах і ўстановах рыхтуюць экспанаты.

Рыхтуецца да выстаўкі паляўнічая каапэрацыя.

Спаткаў я неяк паляўнічага К... Ён, як усім вядома, заўсёды некуды сьпяшаецца. Ледзь прывітаўшыся, адразу мне і кажа:

— Вось, вы кажаце, што мой выжал нічога ня варты, а гэта і няпраўда. Вы ведаеце, што я сёньня атрымаў ад „Белкохотсоюза“ заданьне, каб мой сабака злавіў для выстаўкі... жывога зайца. Няхай-жа такое заданьне дадуць вашаму сабаку, а вы кажаце, што мая нічога ня варта!

— Ні пуху, ні пяра*),—адказаў я. А разьвітаўшыся падумаў:

— Ну і галавацяпы-ж!

Зразумела, зайца злоўленага сабакам К... на выстаўцы ня будзе, але якое заданьне.

* * *

Зайшоў я неяк пад вечар да мастака З. Ён мастацкі афармляе паляўнічы павільён выстаўкі і ён, таксама, ледзь прывітаўшыся, павёў мяне замест хаты ў куратнік.

— Ды што ты, куды ты мяне вядзеш? Што я тваіх курэй ня бачыў, ці што?—спытаў я.

А мастак не падаецца і цягне мяне ў куратнік. Прыцягнуў, сьпіхнуў нагой курыцу з гнязда і з ганаровым выглядам, ткнуўшы пальцам у гняздо, крыкнуў:

— Глядзі!

Падыходжу, і што вы думаеце я бачу: чатырнаццаць глушыных яек ляжыць у гнязьдзе.

— Дзе ты ўзяў?

— Праўленьне „Белкохотсоюза“ выпісала гэтыя яйкі з запаведніка і дало мне, каб я іх падклаў пад курыцу, а калі вывядуцца маладыя глушцы я павінен даглядзець, выгадаваць і даць на выстаўку ўжо вялікіх, жывых глушцоў.

— Дык ты ня толькі,—кажу я,—мастацкі афармляеш паляўнічы павільён выстаўкі, але і рыхтуеш жывыя экспанаты (?). Ну з глушцамі ў вас пустая справа, калі нават і вы будзеце дапамагаць курыцы выседжваць яйкі, дык і то глушцы ня выведуцца. Ні глушца, ні цецярука, ні курапаткі курыца яшчэ ніколі ня выседжвала. Спытайся аб гэтым хоць у праф. Фядзюшына.

Мастак абразіўся, схапіў з гнязда адно яйцо, паставіў яго супроць сонца і закрычаў:

— Вось і няпраўда, глядзі. Яйцо ўжо наседжана, я бачу кроў. Малое глушанё...

— Добрыя ў цябе вочы!—адказаў я,—але жывых птушанят з гэтых яек яны ніколі ня ўбачаць.

— Пажывём, пабачым. А тым часам гэта пустая выдумка каштуе апрача грошай яшчэ 2 глушыных гнёздаў у той час, як паляваньне на іх з мэтаю аховы забаронена.

Хто дадумаўся зрабіць у мастака З... „глухарыны інкубатар“?

* * *

І, нарэшце, апошняе і самае значнае галавацяпства.

31 мая заходжу ў канцэлярыю „Белкохотсоюза“ і што-ж вы думаеце бачу: пад сталом загадчыка паляўнічай гаспадаркаю стаіць драўляная клетка, а ў ёй два маленькія сысуны-бабры.

— Адкуль яны?—пытаюся.

— З Магілева прыслалі,—адказваюць.—Учора атрымалі тэлеграму, а сёньня і баброў... на выстаўку. Толькі невядома, як іх карміць і дагадаваць, да часу адчыненьня яе?

— Што будзе з бабрамі невядома, але можна з упэўненасьцю сказаць, што яны загінуць.

У той час, калі баброў на ўсім сьвеце лічаныя адзінкі, калі яны ўсюды ахоўваюцца і ўсякае паляваньне на іх сурова і даўно забаронена, у Магілеве зьнішчаюць можа апошнюю сям'ю іх і малых сысуноў адсылаюць у Менск на верную пагібель.

Гэты анэкдот ужо пахне нечым горшым. Дзе водзяцца такія разумнікі, якія так удала рыхтуюць жывыя экспанаты на выстаўку.

Пасьля ўсяго гэтага вывад напрашваецца сам сабою, што лепшымі, але адмоўнымі сярод жывых экспанатаў выстаўкі будуць такія нарыхтавальнікі іх. Шкада, што на выстаўцы ня будзе павільёну для галавацяпаў.

**Тамаш.**

*) На паляўнічым жаргоне—пажаданьне посьпеху.

## Слуцкія галавацяпы, ці жывая пасылка за № 55.

*Нібы фэльетон.*

— Калі ласка, прымеце пасылачку—зьвярнуўся старшыня Слуцкага райбюро да чалавека за сеткай з дроту.

— А што пасылаеце?

— Так, нічога асаблівага! Жонка, ведаеце ў Менску знаходзіцца па справе, дык я рашыў паслаць ёй гасьцінцу, сала кускі тры, там, ведаеце, няма.

— Так, сала. Добрая рэч...

# ракратах і браканьерах.

## дзей, якія мяшаюць працаваць.

Чалавек за драцяной сеткай ляніва павярнуўся, узяў на вагу пасылку, наклеіў № 55 і кінуў яе ў груд такіх самых пасылак, не прачытаўшы і адрасу на ёй.

— 65 кап. перасылка. Вось квіток.

— Калі ласка, атрымайце,—і старшыня кінуў на вакно 65 кап.

— Бывайце!

— Усяго добрага!

Старшыня накіраваўся ў райбюро скончыць спрэчкі аб тым, чыя стрэльба лепш б'е, а чалавек з-за драцяной перагародкі смачна хлёбаў чай у садзіку, што каля хаты паштовай канторы.

У гэты час пад'ехала падвода і лістаносец, забраўшы груд пасылак на воз, накіраваўся на станцыю. Там пасылкі пераклалі ў вагон.

Чыгунка вілася між зелені. Паравоз выпускаў белы дым і цягнуў з дзесятак вагонаў, якія моцна грукацелі. У паштовым вагоне чалавек перакідваў з скрыначкі ў скрыначку лісты. Другі перакладваў з месца на месца пасылкі.

— Б'юся аб заклад, што сам чорт сядзіць у гэтай пасылцы. Глядзі, як варушыцца!—зьвярнуўся той, хто перакладваў пасылкі да свайго таварыша.

Той кінуў лісты і падышоў да пасылкі.

— Сапраўды, тут сам чорт зарыты, ці сабака!

Пасылка скакала ўверх, кідалася ў бакі, нейкі зьвярыны піск чуўся адтуль. Абодвы працаўнікі паштовага вагону з перапугам глядзелі на гэты малюнак і ціснуліся адзін да аднаго. Раптам з пасылкі паказалася галава нейкага зьвера.

— Сумленнае слова, што ў пасылцы здаравенны кот!—сказаў больш сьмялейшы, гледзячы як адтуль вылязаў у прагрызеную дзірку зьвер.

— А магчыма тыгра, ці нячысьцік які-небудзь,— адказаў другі і стаў адступаць у куток вагона за груд пасылак.

— Ці слон афрыканскі. Слухай, бяры хутчэй жалезную качаргу і падай мне мятлу, а то ён нас можа ўкусіць.

— У мяне нешта сярэдзіна баліць. Вазьмі лепш ты качаргу і падай мне мятлу.

Пакуль таварышы спрачаліся, зьвер вылез з сваёй абалонкі, у якую ён быў пасоджаны старшынёй Слуцкага райбюро, узьлез на груд пасылак і стаў разглядаць, што робіцца навокал. Таварышы затачыліся пад ніжнюю полку і закаліся пасылкамі. Зьвер прабіў вакно і выскачыў з вагону.

Калі поезд спыніўся на ст. Менск, у паштовы вагон увайшлі новыя служачыя. З-пад полкі адважна вылезьлі два таварышы.

Была складзена камісія і напісаны пратакол, які зараз ляжыць перада мной. Пратакол пачынаецца так: Складзены на жывую пасылку № 55 і дакладна апісвае гісторыю і геаграфію спадарожніцтва куніцы, накіраванай паштовай пасылкай за № 55 старшынёй Слуцкага райбюро калектыву паляўнічых у адрас „Белкохотсоюз“ для І-й Усебеларускай выстаўкі. У пратаколе камісіі ў заключэньне гаварыцца:

У якім напрамку скрыўся зьвер, сьледзтвам не ўстаноўлена.

**М. Я. Цэлеш.**

### Дрэнны прыклад.

Настаўнікі Дукорской сямігодкі (Менская акруга), замест таго, каб даваць добрыя прыклады вучням па ахове прыроды, самі страляюць па карысных для сельскай гаспадаркі і лесу птушках. Вось дык настаўнікі! Як-жа яны тады навучаюць сваіх вучняў любіць прыроду і ахоўваць птушыныя гнёзды і месцы гнездаваньня ў вясну.

**Юнкор.**

### Разбудзіце.

Сеньненская ячэйка паляўнічых Віцебскай акругі сьпіць аж з таго часу, калі яе абралі. А брадзячыя сабакі зьнішчаюць дзічыну і зайцаў, бегаючы па полю, ваўкі завываюць пад бокам ячэйкі, браканьеры дубальтуюць на балоце.

Нават так моцна заснула ячэйка, што ня было ніводнага сходу, праспалі Віцебскую выстаўку сабак, бо аб ёй ніхто ня ведаў.

**Г—у.**

### Рыбай ніхто ня цікавіцца.

*(Бешанковічы, Віцебскай акругі).*

У Бешанковіцкім раёне калектыў паляўнічых у 1929 г. хацеў стварыць рыбалоўную арцель. Дагавор з РВК заключаўся ўжо 4 месяцы таму назад і дагэтуль не заключан.

Вазёры Бешанковіцкага раёну да гэтага часу нікому ў арэнду ня зданы. У гэтым годзе ня цікавіцца рыбай і акруговае т-ва паляўнічых. А рыбны промысел у нас прыбытковы. Пакуль ня позна трэба зьмяніць свае адносіны да гэтае справы і арганізаваць рыбалоўную арцель.

**Зарын.**

## Пухавіцкія „жураўлі“.

— Дзень добры, дзядзька Ляпіч Міхась.

— Добры дзень. Што гэта вы да мяне заблудзіліся? — запытаўся дзядзька Ляпіч Міхась.

— За справай прыйшлі... Ось, паперка з Пухавіцкага гуртка паляўнічых. Птушку нейкую... жураўля забраць. Аддасі, дзядзька?

— Калі заплоціце за харчаваньне за цэлы год,— аддам.

— Не аддасі, кароў апішам,— адказваюць хлопцы з паперкай.

І дзядзька Ляпіч Міхась аддаў жураўля.

---

То здарылася ў Гармоцкім сельсавеце, Пухавіцкага раёну, на х. Осаве. Селянін Ляпіч год таму назад злавіў маладога жураўля і вырасьціў яго. Пухавіцкае райбюро даведалася аб гэтым і паслала члена сельсавета і выканаўцу адабраць птушку. Вось чым займаюцца „жураўлі“ з Пухавіцкага бюро калектыву паляўнічых.

Сялькор **А. М.**

## Аматары яешні.

Гомельскае акруговае таварыства дала дырэктыву раённым бюро аб тым, каб апошнія апавясьцілі насельніцтва аб шкодзе, якая наносіцца выбіраньнем птушыных яец і разбурэньнем гнёздаў. Апошняя дырэктыва папала ў сельячэйкі; вядома аб ёй павінны былі ведаць і РВК і сельсавет.

Але ў Брагінскім РВК глядзяць на гэту справу іначай. Там ня толькі не змагаюцца з гэтым традыцыйным зьявішчам збору ўвясну яек, але пакрываюць тых, хто гэта робіць.

Так, напрыклад, надоечы член Выгрэбна-Слабодзкага сельсавету ўзяў дзяўчат і пайшоў зьбіраць на балота яйкі качак. Калі гэты аматар яешні быў злоўлен паляўнічай ячэйкай і разам з сельсаветам на яго складзены пратакол, з РВК прыехаў загадчык земчасткі тав. Шынгараў і стаў прасіць не накіроўваць гэты пратакол у належныя органы. Вось якія адносіны да паляўнічай гаспадаркі і да аховы прыроды ў работнікаў на мясцох.

**Прыезжы паляўнічы.**

## Падняць дысцыпліну.

У саюзе ёсьць паляўнічыя, якія зусім ня лічацца з паляўнічымі правіламі і не захоўваюць саюзнай дысцыпліны. Напрыклад, у нас, у Брагінскім калектыве, ёсьць паляўнічы Чуйко, Рыгор Фядосаў. Ён едзе ў поле араць і бярэ з сабой паляўнічага сабаку. Гаспадар арэ ці паша, а сабака качак маладых душыць ці зайчанят вылаўлівае. Дзьве карысьці адразу.

Трэба ўзяцца за падняцьце дысцыпліны ў саюзе паляўнічых, за лепшую ахову паляўнічых угодзьдзяў, за падняцьце ўраджаю дзічы і зьвера на нашых паляўнічых угодзьдзях.

Такіх паляўнічых, як Чуйко Рыгор, трэба выключаць з саюзу.

**С. І.**

## Лагойскае бюро не працуе.

У Лагойскім райбюро калектыву паляўнічых, Менскай акругі, ніякай працы між паляўнічымі не праводзіцца. Некаторыя паляўнічыя мусіць ня ведаюць, што паляваньне забаронена да 1 жніўня. Так, паляўнічы Юрцэвіч Міхась, з в. Пасекі, кожны дзень раніцой і ўвечары пускае ў лес сваіх ганчакоў, якія і ганяюць зьвера. Ён нават калі-ні-калі і на паляваньне выходзіць і забіў дзікую казу.

Кажуць, што Юрцэвіч мае шмат знаёмых, таму гэта яму так лёгка сходзіць. **Свой.**

## Акруговае таварыства падвяло.

Паляўнічыя Бешанковіцкага раёну не маглі дачакацца 1-га мая, каб хутчэй пастраляць па талерачках. Качан Ляксей нават так падрыхтаваўся, што і спаў у хаце-чытальні бюро калектыву. Калі з-за небасхілу паказаўся дымок, а за ім вырас і сам параход, які ішоў з Віцебску, усе паляўнічыя высыпалі сустракаць яго. Яны думалі, што параход вязе талерачкі для бешанковіцкіх паляўнічых.

Але, калі так горача адносіліся да гэтае справы паляўнічыя, дык зусім холадна выконвала свае абавязкі Віцебскае акруговае таварыства. Ня гледзячы на просьбы бюро Бешанковіцкага калектыву аб прысылцы талерачак і машынкі для кіданьня іх, акртаварыства машынку паслала ў Чашнікі, дзе яе паламалі, а талерачак ня выслалі зусім. На гэтым урачыстае сьвяткаваньне Бешанковіцкіх паляўнічых і скончылася.

**Курсант Зарын.**

## Мэліаратар—браканьер.

У Прапойскім раёне працуе мэліаратар Гапоненка. Чалавек ён культурны, але ўчынкі яго ня зусім культурныя. Надоечы ён пазычыў стрэльбу і пашоў паляўнічыць. Забіў чыронка. На гр. Гапоненка за браканьерства складзен райміліцыяй пратакол і перadaны ў суд для прыцягненьня да адказнасьці. Спадзяемся, што нарсуд уліча „культурнасьць“ Гапоненка і дасьць яму па заслугах. **С.**

# „Чыстка з маслам".

На чыстцы паляўнічых Бешанковіцкага раёну, Віцебскай акругі, было шмат людзей. Прыехаў і сам старшыня акруговага праўленьня т. Сьвятагораў. Але, калі быў адчынен сход, т. Сьвятагораў перад чысткай хацеў зрабіць „змазку". Ён аўладаў чашачнай вагой крамы райбюро, сабраў з базару спэкулянтак маслам і давай у другім пакою важыць і купляць масла.

А людзі глядзяць на гэту справу і чакаюць, пакуль аслабаніцца т. Сьвятагораў. **Зорын.**

# Справа загадчыка запаведнікам Гурына.

Твар Гурына — былога загадчыка беларускага дзяржаўнага заказьніка — даволі добра выяўлены ў нашай часопісі № 8 і 11—12 за 1929 год. Там апісваліся ўсе тыя мэтады, якімі гр. Гурын быў задаўся мэтай разбурыць запаведнік і ў некаторай долі дасягнуў сваёй мэты. У гэтай ганебнай справе Гурыну дапамагаў яго першы памочнік Паржэцкі, другі памочнік Аксяновіч і дзелавод Ляўхман. Гэтая „цёплая кампанія" арудавала ў беларускім дзяржаўным запаведніку на працягу некалькі год, разбураючы яго і разбазарваючы дзяржаўныя сродкі. — „Кучка прайдох корміцца каля белдзяржзапаведніку",—пісаў у № 11—12 за 1929 г. наш карэспандэнт.

Заметкамі, зьмешчанымі ў „Паляўнічым Беларусі", зацікавілася Менская акруговая пракуратура і расьсьледвала гэту справу.

19 мая справа Гурына пачалася разьбірацца ў Менскім акруговым судзе. Пасьля зачытаньня абвінавальнага заключэньня, па якому Гурын, Паржэцкі, Аксяновіч і Ляўхман абвінавачваюцца па 196 арт. Крым. Кодэксу, старшыня суду пытаецца ў Гурына, ці прызнае ён сябе вінаватым.

— Не, не прызнаю,—адказвае Гурын і саромліва апускае вочы ўніз. Ён і сам добра ведае, што сказаў няпраўду, але ў Гурына, ня гледзячы на тое, што ён член партыі, менш сьмеласьці, чым нахабства сказаць суду праўду, і прызнацца ў сваіх злачынствах. Гурын апавядае суду аб сваёй дзейнасьці ў запаведніку і па яго словах выходзіць, што „я ня я і хата не мая".

— Растлумачце, абвінавачаны, наконт зьвярненьня на сваю карысьць сена заказьніку і кармленьня ім сваёй каровы!,— зьвяртаецца старшыня суду.

Гурын дае блытаныя паказаньні, што сена для сваёй каровы ён ня браў, што сена ў запаведніку касілася і вазілася ў запаведнік, частка аддавалася касцам за працу, а колькі яго было накошана, зьвезена і аддана касцом, яму, Гурыну, не вядома, бо ніякіх запісаў не вялося і акты не складаліся.

— А магчыма сена было накошана больш, чым атрымана запаведнікам?— пытаецца старшыня суду. Ці яшчэ горш—скошана, а потым прададзена ці скормлена вашай каровай. Вы-ж ня можаце давесьці, што яна пашла ў карысьць запаведніка, калі ў вас ня было ніякіх запісаў?

Ну, зараз вы прызнаеце сябе вінаватым? зноў пытаецца судзьдзя.

Гурын, апусьціўшы вочы, маўчыць.

Пасьля гэтага Гурын прызнаецца і ў тым, што варта ў запаведніку была падабрана вельмі кепска, але віны за гэта на сябе браць ня хоча.

— А як гэта вы пераносілі слуп на мяжы запаведніка, пасьля вашага паляваньня ў запаведніку з лясьнікамі і дзелаводам Ляўхманам.

Гурын пераступае з нагі на нагу і адпавядае нейкую блытаную гісторыю аб тым, што слуп стаяў па за мяжой запаведніка, а чаму ён яго перанёс на мяжу як раз пасьля свайго паляваньня і ці льга паляваць на мяжы запаведніку, станоўчага адказу суду не дае.

— Чаму не вялося барацьбы з драпежнікамі і браканьерамі, ад чаго загінулі мядзьведзіца, ласіха, лісы ў гадавальніку; кім былі забіты бабры і спалена хатка бабра на рацэ Бярэзіне— чыя тут віна?

Гурын зноў прызнаецца, што нядбайнасьці былі, але чамусьці ня хоча браць віны за гэта на сваю пэрсону.

— Куды дзеліся тыя 918 рублёў, якія запаведнік атрымаў за сенажаць?

— Я на іх купляў фураж для коняй!

— А колькі ў запаведніку коняй было?

— Два.

— Колькі павінна было быць згодна каштарысу?

— Адзін.

— А ці магло быць такое зьявішча, што вы атрымалі за сена, скажам, 100 рублёў, а фуражу купілі толькі на 1 рубель. Вы-ж ня можаце давесьці, што грошы пайшлі менавіта на фураж, калі ў вас ня было запісаў аб тым, колькі было атрымана грошай і колькі куплена фуражу. Ці ёсьць тут ваша віна?

Гурын маўчыць і нэрвова пераступае з нагі на нагу.

— А ці быў у запаведніку бюракратызм?

— Не, ня было,—кажа Гурын.

— Але былі такія выпадкі, што вы сядзелі ў адным пакоі з памочнікам Паржэцкім і пісалі адзін аднаму афіцыйныя паперкі, заносілі іх ва ўваходзячы і аддавалі адзін аднаму толькі пад асабістую расьпіску?

— Былі.

— А што значаць такія словы ў вашым акце прыёму работы па рамонту памяшканьня. „Штукатурка зроблена добраякасна, але ня чыста".

Сьмех у зале суду.

Далей суд устанаўляе, што ў запаведніку не вялося ніякай работы; былі спэцыяльныя лесаводы, але яны не займаліся сваімі абавязкамі; былі ў гадавальніку лісы, якія абыходзіліся па 100 рублёў кожная і ўсе-ж паздыхалі ад голаду; у запаведніку раскідалі нядбайна атруту, ад чаго загінула мядзьведзіца; адміністрацыя. на чале з самім Гурынам, займалася ў запаведніку паляваньнем; запаведнік ахоўваўся кепска, варта была падабрана нядбайна і шмат іншых злачынстваў і нядбайнасьцяй.

— Ну, а зараз вы прызнаеце сябе вінаватым, гр-н Гурын?,— пытаецца старшыня суду.

— Не, грамадзянін судзьдзя, не прызнаю, — адказвае той і садзіцца.

Далей дапытваецца першы памочнік загадчыка запаведнікам гр. Паржэцкі. Гэта вельмі хітры чалавек. Ён прывёз з сабой усю сваю „асабістую" канцэлярыю, якая завялася ад „узорнай" працы ў запаведніку. Гэту канцэлярыю прывёз з сабою Паржэцкі і ў суд у кішэнях сваіх шырокіх штаноў, куды, відаць, ня мала перакачвала і дзяржаўных грошай!

Паржэцкі трымае сябе на судзе разьвязна, але вельмі асьцярожна, дэманструючы дакумэнтамі з уласнай канцэлярыі. Паржэцкі абвінавачваецца па таму-ж артыкулу, што і Гурын. Спачатку Паржэцкі ня хоча апавядаць аб усіх тых злачынствах, якія тварыліся ў запаведніку. Некаторыя моманты з умыслам замоўчвае, а некаторыя высоўвае. Але пасьля некалькіх перакрэсных пытаньняў судзьдзі і пракурора, ён павінен быў трохі разьвязаць свой язык.

— Чаму ў вас былі такія адносіны з Гурыным, што прышлося абодвым заводзіць сваю ўласную канцэлярыю і займацца бюракратызмам? – пытае старшыня суду.

Паржэцкі апавядае аб той нездаровай атмосфэры, якая была ў запаведніку. Каб як-небудзь выкруціцца самому, ён стараецца скрыць тыя злачынствы, якія ўтвараліся ім разам з Гурынам і апошнімі абвінавачанымі, гаворачы аб іх то намёкамі, то зусім замаўчваючы, а другія звальвае на іншых абвінавачаных.

— Чаму вы адмаўляліся падпісваць паперы, калі Гурын быў у камандыроўцы?

— Я не адмаўляўся. Толькі тады я не падпісаў паперы, калі аб'ездчык прынёс 500 рублёў на пакрыцьцё крэдыту 1929 г. Я баяўся прыняць гэтыя грошы.

— А чаму вы баяліся?

— Я ня ведаў адкуль узяты гэтыя грошы. Магчыма аб'ездчык і другі памочнік каапэрацыю абрабавалі? —сьмела заяўляе суду Паржэцкі.—І добра, што ня прыняў іх і не падпісаў паперы, бо як пасьля выявілася, гэтыя 500 рублёў былі ня зусім „чыстыя". Па выразу нашых працаўнікоў з гэтымі грашымі хацелі зрабіць „складаную камэрцыйную апэрацыю". Калі атрымалі крэдыт на 1930 год, узялі адтуль 500 рублёў на пакрыцьцё крэдыту 1929 г. Па кнігах бухгальтэрыі выходзіла так, што 1929 г. пазычыў 500 рублёў у 1930 г.

У зале сьмех.

Потым Паржэцкі апавядаў суду, як падохла ласіха, а акт быў складзен на дохлага каня; як была атручана мядзьведзіца, аб нядбайным зьвярненьні з стрыхнінам Гурыным; аб тым, як падохлі лісы; як касілі і вазілі сена, а свайму каню яго куплялі і аб іншых злачынствах. У выніку допыту віна Паржэцкага ўстанаўляецца.

Пасьля гэтага дапытваюцца другі памочнік загадчыка запаведнікам Аксеновіч, дзелавод Ляўхман і сьведкі. Гаворыць прамозы пракурор, абаронцы, і суд выносіць прыгавор. Гурын прыгаворан да 8 месяцаў прымусовых работ, а Паржэцкі, Аксяновіч і Лаўхман да 6 месяцаў. **М. Я. Цэлеш.**

# Што было на балоце.

Умытая расою зямля сарамліва глянула на сонечную ўхмылку дня. Бярозы моўчкі сустрэлі радасьць летняе раніцы. Застыў па нізінах алешнік. Толькі лісьце асіньніку ня спыняе таямнічых шэптаў. Працяжны і роўны шум плыве над сенажацямі, даходзіць пад дарогу. Росная раніца не абсадзіла тут пылу. З-пад ног падарожнікаў ён разьлятаецца ва ўсе бакі, як напалены гарачы прысак на агні начлежнікаў.

Я знаю людзей, што трывожаць пыльны спакой дарогі. Адзін—высокі і сухарлявы, старшыня калгасу Кастрычнік, Тодар Валодзька. Ён неяк асабліва размахвае рукамі, калі ідзе, што яго можна пазнаць яшчэ здалёк. Валодзька роўнамерна соўгае доўгімі нагамі па пыльнаму прыску. Ад яго не адстае мала чым меншы, але грубейшы—Апанас Чыж. Ідуць людзі. З імі плыве шэры туман, удушлівы, як пыльная малацьба ячменю.

— Трэба, каб прайшоў дождж,—кажа абарачваючыся да Чыжа Валодзька.—Гэта былі-б добрыя лекі ярыны.

Чыж нічога не адказаў на прапанову пра дождж. Ён толькі глянуў на захад, дзе, здавалася, павінна быць хмара і так застыў на месцы.

— А сёлета мы добра падуправіліся,—гаварыў далей Валодзька.—200 гектараў аўса, ды такую лаву бульбай завалілі. Хопіць і сабе і ў горад рабочым. Гэта табе не паасобная гаспадарка, а калгас. 150 гаспадарак жывуць аднэй сям'ёю. Гэта табе ня хаханькі!..

Згледзеўшы пад сонцам каршуна, які разгарнуўшы крыльле, свабодна плыў па нябачных хвалях паветра, Валодзька раптам перамяніў тэму гаворкі.

— От упаду на іх няма! Трэба калі адстраляць. А то і курэй дзяруць і цецяруком спуску не даюць. Ты, што скажаш, га?..

Ён, не атрымаўшы адказу, абвярнуўся і вылаяўся, Чыжа ля яго ня было. Крокаў за шэсьцьдзесят утаропіўся поглядам на балота, дзе выкручвалася паміж чароту і лазы рэчка Дуплянка. Колькі часу ні глядзеў Валодзька—Чыж стаяў ня рухаючыся.

— Што табе за трасца?—спытаў старшыня калгасу, падышоўшы бліжэй.—Слухаеш, як нешта шуміць?

— Шуміць асіньнік,—адказаў Чыж.—А ты от глянь, што робіцца ля тае касагорыны...

Валодзька павярнуў у бок балота сваю калматую галаву.

— Што робіцца—прагаварыў ён.—Нічога. Нейкі чалавек капошыцца ў кустох. Мо лазу на лапці дзярэ.

— Лазу на лапці!? А чаго стрэльба ў яго за плячыма?

Чалавек на балоце скокнуў гэтым часам праз канаву, што ішла ў раку, і за яго плячыма блiснула люстрай сталь рулі.

— Мо' браканьер? Тады—злавіць! Навучыць, каб дзесятаму заказаў.

Яны, хаваючыся між сенажатніх кустоў, каб незаўважыў чалавек са стрэльбай, рушылі пад рэчку. Ішлі скрадчыва, як зьвяры, што адшукваюць сабе на паласанку другога—спажыву.

Усхадзіўся нет ведама чаго ладны вецер. Ён дыхнуў з боку рэчкі: разам з прахладай за ветрам пашоў на поле пах багатай расьлінасьці гэтых спрадвечных нетраў.

— Цяпер ён нас не пачуе,—сказаў ціха Чыж.— Зараз вылавім шкодніка. Ці мо' гэта кулак які?

З-за густых кустоў яны ня бачылі, як нехта хлюпаўся па вадзе. Потым усё сьцішала. Спакой быў доўгі і да прыедлівасьці ўпарты. Ужо ногі памлелі ў калгасьнікаў. Яны добра ведалі, што чалавек, за якім сочаць, не пашоў. Застанавіўся недзе блізка. Часамі Чыжу здавалася, што ў прамежку з подыхам ветра, ён чуе стрывожанае дыханьне чалавека.

І раптам спакой па той бок кустоў быў парушаны нейкім своясаблівым гукам, гэта ня было шлопаньне пугі, як гэта часта робяць пастушкі. Але гук ня быў падобны і на стрэл паляўнічага.

Валодзька павярнуўся да Чыжа.

— А мо' гэта ня стрэльба блішчэла,—спытаў старшыня. Мо труба пастухова, а нам здалося чорт ведама што.

— Ты трохі падсьлепаваты, дык і ня бачыш!— пачынаў ужо злаваць з нецярплівасьці таварыш Чыж. Трэба яшчэ пабыць спакойна.

Мінула яшчэ паўгадзіны напружанага спакою. Ужо нямець пачалі ад доўгага стаяньня ногі. Асьцярожна, каб ня плюскаць вадою, пачаў прабірацца Валодзька да бліжэйшага альховага куста прысесьці.

З боку чыстай вады рэчкі зайшло сюды клопатнае крактаньне качкі. Цяпер вецер прыцішаў. І сьледам за гэта спакой балота быў парушаны працяглым шлёпам.

Валодзька і Чыж разам рванулі праз кусты. З усяе сілы бралі прыступам зялёную ходкую сьцяну. І калі выбраліся да рэчкі—на беразе нікога ня было. Толькі па правы бок гойдаліся кусты. Відаць чалавек зьнік за імі.

— Глядзі на рэчку!

— Што там?

— Дзьве забітыя качкі!

— От каб яго самога дзе!..

Калі спала злосьць і зьдзіўленьне яны пашлі сьледам уцекача. І недалёка, у кустох знайшлі вінтоўку, якімі цяпер страляюць у цірах. Чыж здаволена ўхмыльнуўся.

— Цяпер паглядзім, што ён запяе на сходзе... А дасюль ніхто ня мог падумаць... Глядзі, глядзі супроць таго куста!

Валодзька падышоў да Чыжа.

Крокаў за восемдзесять быў відаць высакаваты прыбярэжны ўзгорак. Цяпер па ім бег чалавек. Без аглядкі.

— Цімох Жарскі!..

— І стрэльба яго!

Яны выбраліся з балота. Увесь час, пакуль ішлі да калгасу, у галовах патрывожанай птушкай білася думка пра чалавека, якому давяралі.

— Ты памятаеш?..

Чыж сьпешна перабіў гаворку Валодзькі.

— Ну, ведаю, што ты будзеш гаварыць пра тое, як Жарскі выступаў на сходзе паляўнічых. Як крычаў, што трэба вылавіць і пакараць браканьераў. Ну што з таго? Шмат яшчэ сярод нас ёсьць такіх, што выказваюць прыгожыя словы, а справы іх пахнуць брудам... Вунь і летась было, што Андрэй

Гармоцька, не сьцярпеў, каб ня стрэліць у зайца, калі гэтага ня можна было рабіць. Сьцяпан Гарбуз зьбіў...

Пякло сонца. Гарачым подыхам зганяла расу з лісьця дрэў, з травы. Прыскаватая дарога перастала пыліцца толькі на паваротцы ў калгас. Людзі ішлі моўчкі. У аднаго за плячыма зьвісала тозаўская вінтоўка, а другі нёс дзьве качкі. Старыя і схудалыя, як куры, што водзяць куранят.

**М. Пасьлядовіч.**

# Сустрэча.

Гады бралі сваё. Кучаравая, пасрэбраная галава Рыгора апускалася ўсё ніжэй і ніжэй. Ногі, што вымералі столькі багны, не хацелі далей мераць. Рыгор стаў часта наведваць печ, а зімою, дык можна сказаць, і ня злазіў з яе. Нават у адлегу раніцаю, калі „Палкан" ласкава прасіў разумнымі вачыма прайсьціся з ім, палюбавацца парошаю і раніцаю, то і тады не пакідаў Рыгор печы.

— Што, дацягаўся? — не забывалася папікнуць у такім разе жонка.

— Нічога не дацягаўся! — бурчэў з печы Рыгор; вось хай вясна надыйдзе, дык і на глушцы, яшчэ пайду.

— К чорту ў балота—ня ўнімалася жонка.—На двор ледзь выйдзе, а то ён на глушцы пойдзе,— маўчаў-бы ўжо лепей!..

— І пайду, абы вясны дачакацца.

А вясна ўжо набліжалася. У сакавіку праменьні хутка зганялі рухавымі і мутнымі рыштками сьнег, да канца месяца яго ня стала і лапінкі. Птаства, што пакідала нас на зіму, вярнулася з далёкага вандраваньня і напоўніла лес сваім гоманам.

Ужо з тыдзень, як Рыгор ня лазіў на печ. Кожны дзень грэецца на сонейку на прызьбе і прыслухоўваецца да драздоў, з якімі разам пачынаюць пець напрадвесьні і глушцы. Дразды адгукнуліся, значыць і глушцы пяюць, але Рыгор чакаў, каб крыху пацяплела.

Нарэшце, аблюбаваў цёплы, што ўлетку, дзень: на небе ані хмаркі, вецер ані калыхне.

Рыгор падрыхтаваўся яшчэ з раньня, а, папалуднаваўшы, гадзіне а чацьвертай, вышаў з дому. Старасьць нібы засталася на печы. Ён бадзёра мерыў стройны бор, убраны верасам і сінімі кусьцікамі расьцьвіўшага сону*).

Вось і таковішча. Вялізарная імшарына, з досыць высокім хвойнікам—без канца ўздоўж і поперак—шырока разгарнулася сярод Менскага Палесься. На дзесяткі кілёмэтраў—ні будыніны, ні чалавека.

— Вось дзе прастор і воля пярнатаму красаўцу хвойнай глушы.

Выбраўшы высокую купіну Рыгор схаваўся пад абляпіўшымі яе хвойкамі. Сонца садзілася, пакрыўшы чырвонымі праменьнямі хвойнік. То там, то сям абзываліся качуры, раскідаўшыся па выжарынах імху, па ўсім балоце адгукаліся жураўлі, без канца цягнулі над галавою цэлымі кучкамі слонкі, паміж куп'я шныпарылі з рогатам стракатыя пардвы.

Сонца зусім закацілася. Жыхары балота, нагаманіўшыся за дзень, прымоўклі і ўсе стала ціха навакол.

Рыгор сядзеў і любаваўся хараством сумеркаў. Зьмерклася зусім. Глушцы пакінулі жыраваць. Рыгор пачаў адкрадвацца і хутка выбраўся на палянку, на якой ён заўсёды начаваў. На палянцы ўжо гарэў агеньчык, а каля агенчыку перакусваў Васіль.

Трохі пагаманіўшы Васіль і Рыгор заснулі. Першы падняўся Рыгор. На агні датлявалі, патрэскваючы галавешкі. Усход чуць пабялеў. Разбудзіўшы Васіля—пашлі кожны да сваіх глушцоў, намечаных учора з вечара.

Рыгор—на месцы. Выбраўшы лепшага па сьпевах глушца, ён пачаў красьціся. Не сьпяшаючыся, па два крокі ў калена, хоць марудна, але пэўна Рыгор набліжаўся да глушца, які такаваў на таўставатым суку досыць высокай хвоі. Раптам глушэц змоўк, суняўся і Рыгор. Ззаду, крокаў на сто, моцна шлёпаючы па разбагнеўшым імху, нехта даганяў Рыгора.

— Пэўне Васіль ня трапіў да сваіх глушцоў,— кальнула Рыгора, і ён моцна вылаяў апошняга пра сябе, за яго вялізарныя лапці і нязграбнасьць. Глушэц маўчаў і прыслухоўваўся.

Рыгор стаяў у лужыне, прыгнуўшыся да купіны, ажно ногі падрантвелі. А нехта ўсё набліжаўся. Рыгор махаў назад рукою, каб ён крыху суняўся і даў магчымасьць падыйсьці да глушца, але шум ня сьціхаў.

Усё больш выцягваючы шыю, глушэц рыхтаваўся зьняцца і потым уляцеў.

— Ліха тваёй...—пачаў у злосьці Рыгор, яшчэ не паглядзеўшы назад, але і ня скончыў. Яго перарваў страшэнны роў вялізаўнага сьцярвятніка, стаяўшага дыбкі ад яго крокаў за трыццаць. Ад гэтага рову гаспадара пушчы, пабялеў, нават і Рыгор, якому такія спатканьні былі добра знаёмы.

Хвілін тры стаялі чалавек і мядзьведзь моўчкі, але апошні ўступіў чалавеку і гультаявітым трухам схаваўся за сасонкамі.

— Чуў?—запытаўся Рыгор у Васіля, вышоўшы на палянку.

— Чуў! Ну браце, шчасьце тваё, а то я думаў, што падабраў ён цябе.

Пад уражаньнем добрага канца небясьпечнага спатканьня, паляўнічыя селі пасьнедаць.

**М. Р. Гадыцкі.**

*) Баразая веснавая кветка.

---

## Паштовая скрынка.

**Міронавай**—ваш допіс пасланы на расьсьледваньне ў Бешанковіцкі РВК.

**Цімоху Былінку**—апавяданьне „Стары за новае", курсанту **Зарыну**—„Председатель с темпераментом", „Кошачье блюдо", **К. Ягораву**.—„Правільны шлях", „Предложение". Паляўнічаму **Я. С.**—„Пытаньне, патрабуючае хуткага вырашэньня"—ня пойдуць. **Тамашу**—вашы заўвагі прыняты рэдакцыяй да ведама, але за адсутнасьцю месца зьмясьціць ня можам.

---

*Рэдкалегія:* **Шмідт, Сільнікаў, Тамашэўскі**
*Адказны рэдактар* **Мік. Шмідт.**

ЦАНА 30 кап.

852

# ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПАДПІСКА НА 1930 ГОД

НА САМУЮ РАСПАЎСЮДЖАНУЮ
НА БЕЛАРУСІ
ШТОМЕСЯЧНУЮ ЧАСОПІСЬ

# ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА
ПРАМЫСЛОВА-КААПЭРАЦЫЙНАГА
САЮЗУ ПАЛЯЎНІЧЫХ

**ЧАЦЬВЕРТЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ**

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ" шырока адбівае пытаньні аднаўленьня паляўнічай гаспадаркі, працу ахоткаапэрацыйных арганізацый Беларусі і жыцьцё на мясцох.

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ" дапамагае правільнаму вядзеньню паляўнічай гаспадаркі, зьверагадоўлі, сабакагадоўлі і г. д.

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ" адбівае пытаньні барацьбы з драпежнікамі і браканьерамі.

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ" знаёміць чытача з жыцьцём і норавамі жывёлы.

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ" знаёміць сваіх чытачоў з паляваньнем заграніцай.

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ" дае парады чытачом і зьмяшчае афіцыйныя пастановы і распараджэньні Ураду, якія маюць сувязь з пытаньнем паляваньня.

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ" асьвятляе больш важныя палітычныя пытаньні краіны.

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ" садзейнічае разьвіцьцю кроўнай сабакагадоўлі і палепшаньню прамысловае сабакі.

У часопісі прымаюць удзел лепшыя навуковыя сілы на Беларусі, а таксама навуковыя сілы іншых рэспублік, практыкі паляўнічай каапэрацыі, пісьменьнікі-бэлетрысты і г. д

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

На 9 м-цаў. . . . . . . . 1 руб. 50 к.
На поўгода . . . . . . . 1 руб. 20 к.
На 3 месяцы. . . . . . . . . 70 к.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: ва ўсіх паштовых аддзяленьнях, усіх райбюро калектыву саюзу паляўнічых, акруговых праўленьнях і ў Ц. П. Белкахотсаюзу (г. Менск, Савецкая, 71)

**ЗГОДНА ПАСТАНОВЫ ПЛЕНУМУ ПРАЎЛЕНЬНЯ „БЕЛКОХОТСОЮЗА" І НАРКАМЗЕМУ—ПАЛЯВАНЬНЕ НА КАЧАК У ГЭТЫМ ГОДЗЕ ПАЧЫНАЕЦЦА З 20-га ЛІПЕНЯ, А НА ЎСЮ АПОШНЮЮ БАЛОТНУЮ ДЗІЧЫНУ (ЦЕЦЕРУКА, ПАРДВУ, БЭКАСАЎ, ДУПЯЛЁЎ, РАБЧЫКАЎ І ГАЛУБОЎ)— З 1-га ЖНІЎНЯ.**




Друкарня БДВ. Заказ № 2055. У ліку 17.500 экз. Галоўлітбел № 2271.